
«Перапяліца» ў Тапарках ➔8

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Пра Ілью і пушчу ➔9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 34 (3197) Год LXII Беласток, 20 жніўня 2017 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



Селім КАРЫЦКІ і Джэміль ГЕМБІЦКІ



# Надакучыла быць палякам

*Аб праблемах тоеснасці* ***Уршуля Шубзда*** *размаўляе з* ***Селімам КАРЫЦКІМ.***

**— Больш за 20 гадоў таму Ты з’ехаў у Лондан. Ты сам татарын з Гданьска з беларускімі каранямі. Калі б можна было ўстанавіць тоеснасць, то кім Ты сябе б назваў?**

— Я лічу сябе палякам, які жыве за мяжой. Ці падабаецца мне Польшча, ці не. Менавіта тут прайшло першых дваццаць гадоў майго жыцця. Я вывучаў польскую гісторыю, прасякнуў польскай культурай, менталітэтам. Не маю выбару (*смех*). Дваццаць гадоў жыцця за мяжой дало мне іншы погляд на свет. Мог бы я таксама адказаць на Тваё пытанне, што адчуваю сябе грамадзянінам свету.

**— Далей добра гаворыш па-польску. Бывае так, што людзі, якія эмігруюць забываюць мову.**

— Я таксама доўгі час не карыстаўся польскай мовай. Апошнія гады жыў з палякамі, дзякуючы таму вярнуліся словы, якія забыў.

**— А Твае дзяды, якія рэпатрываваліся з беларускіх Лоўчыц у Гданьск, таксама захавалі сваю беларускую тоеснасць, мову?**

— Трэба было б Табе спытацца ў іх.

**— А Ты не спытаўся?**

— Не. Я не меў амаль кантакту з дзядамі. Дзед Міхал памёр, калі мне было 7 гадоў. Ведаю, што яго на працы называлі «Каханенькі», бо нібыта ён так да ўсіх звяртаўся.

**— У Цябе не было магчымасці пагаварыць з дзедам пра славутую гісторыю вашай сям’і?**

— Не, але я быў свядомы таго, што маем багатую мінуўшчыну.

**— Добра, але калі я слухала Тваіх размоў з татарамі, якія жывуць на Падляшшы, цяжка было не звярнуць увагі на гэта, што ім самім было дзіўна, што так нямнога ведаеш пра гісторыю сваёй сям’і, пра якую шмат чаго можна знайсці проста ў інтэрнэце.**

— Гэта праўда, але тое, што можна прачытаць у інтэрнэце, прачытаў! (*смех*) Гэта вынікае з таго, што на мяне, як на дзіця, былі перанесены розныя сямейныя канфлікты. Частка сям’і не размаўляла з другой часткай... Гэта складаная гісторыя.

**— З гэтага, што Ты гаварыў, канфлікт быў вынікам мезальянсу. Твой бацька ажаніўся з каталічкай, з чым не маглі памірыцца дзяды?**

— Гэта таксама.

**— Усё-такі Табе ўдалося нешта ад іх «выцягнуць»?**

— Для пяцігодка, словы Крэсы ці Беларусь нямнога гаварылі. Ганарыліся, што нашы продкі прымалі ўдзел у войнах, паўстаннях...

**— У Лондане 20 гадоў таму Ты не адчуваў сябе таксама як мігрант з дзікага свету?**

— Я апынуўся ў Лондане поўным імігрантаў. Аднак мая міграцыя была такая паступовая. Я з’ехаў у Лондан пасля двух гадоў падарожжаў. Я ездзіў па Еўропе: Чэхія, пазней Нямеччына, Францыя... затым апынуўся ў Лондане. Мяне тады захапляе Захад. Свядомасць, што ўсюды проста ЛЮДЗІ.

**— Аднак ужо стаміў Цябе гэты горад?**

— Лондан памяняўся. Я памяняўся. Хачу недзе пераехаць, але яшчэ не ведаю дзе.

**— Цэлы час дзесьці ездзіш, пераязджаеш... Ці не маеш такога адчування, што ўсюды Ты «чужы»?**

— Я думаў аб гэтым «чужынстве» доўгі час. Перш за ўсё я адчуваў сябе чужым праз сваё імя і веру. Усе вучні хадзілі на парафію на заняткі рэлігіі, а я не. Хаця не помню прыкрых сітуацый з боку аднагодкаў, а менавіта дзеці гэта ўмеюць найлепш (*смех*). Я можа не столькі адчуваў сябе горшым, што іншым.

**— Наколькі на Падляшшы Тваё імя і прозвішча нікога не здзіўляюць, у Гданьску ці Лондане гэта выглядае па іншаму?**

— У Гданьску рэдка хто ведае пра татараў у Польшчы. Большасць пыталася: Селім? Што гэта за імя?! У Лондане лічаць мяне турэцкім або індыйскім мусульманінам — там гэта імя вельмі папулярнае.

**— Як сёння ставяцца да мусульман у Лондане?**

— Заўважаецца большую ісламафобію. Вядома, гэта рэфлексія толькі на аснове таго, што пішацца і гаворыцца ў СМІ.

**— На Тваю думку, сутыкненне культур прыводзіць да станоўчых ці адмоўных эфектаў?**

— «Сутыкненне» — прыгожае слова. Польскае слова «zderzenie» для мяне адмоўна асацыюецца. На маю думку гэта пазітыўная з’ява.

**— Упершыню Ты прыехаў на Падляшша і ў Гародню. Гэта Тваё першае падарожжа на амаль край Еўропы?**

— Але быў калісьці ў Элку (*смех*). Праўда, я шмат падарожнічаю: быў у Азіі, Афрыцы, як ужо гаварыў, падарожнічаў па Заходняй Еўропе, але так далёка на Усход ніколі не ездзіў! (*смех*)

**— Як уражанні?**

— Я вельмі прыемна здзіўлены. Найбольш — мультыкультурнасцю.

**— Падляшша больш мультыкультурнае чым Лондан?**

— Не параўноўваю Падляшша з Лонданам, толькі з Польшчай, якую ведаю. Вельмі польскай і вельмі каталіцкай. Тут па-іншаму: цэрквы, праваслаўныя, татары... Сам факт, што людзі ведаюць пра гісторыю татараў і ставяцца да нас...

**— Пазітыўна?**

— Можа не столькі пазітыўна, што нармальна. Тут ведаюць скуль мы ўзяліся, ведаюць гісторыю. Тут інакш чым у Польшчы, якую я ведаю, да якой я прывык.

**— Іслам у Польшчы на прыкладзе падляшскіх татараў — гэта тэма Тваёй магістарскай працы і прычына, дзеля якой Ты прыехаў на Падляшша.**

— Гэта галоўная мэта. Аднак, як я ўжо сказаў, нямнога людзей з Вялікабрытаніі, і маю тут на думцы людзей з усяго свету, ведае аб мусульманах Вялікага Княства Літоўскага і пра іх заслугі. У кантэксце сённяшніх канфліктаў вельмі многіх людзей шакіруе, што ў каталіцкай Польшчы мірна жывуць і татары.

**— Апрача таго, што хочаш паказаць мірнае суіснаванне прадстаўнікоў розных рэлігій на Падляшшы, то ці на выбар тэмы паўплывала ў нейкай ступені таксама патрэба адшукання сваіх каранёў?**

— Магчыма ў пэўнай ступені так. Я ўзрастаў у пачуцці «іншасці». Гэтыя ўсе сустрэчы з падляшскімі татарамі, месцы... далі мне вельмі многа. Тут мае імя нікога не здзіўляе. Аднак калі я пачаў думаць пра сваю дысертацыю, перш за ўсё думаў пра тое, каб даказаць, што можна жыць разам і бесканфліктна ўсюды.

**— Не думаеш, што менавіта веданне сваіх каранёў, свету, у якім жывём, дае пачуццё бяспекі?**

— Напэўна так. Папраўдзе мы ўсе — прадукты асяроддзя, у якім узрастаем, і гэта перадаецца з пакалення ў пакаленне. Гэта частка нас. На маю думку, веданне мінуўшчыны, сваёй гісторыі з’яўляецца неабходным , каб пазнаць самога сябе.

**— Таму ўжо плануеш чарговы візіт на Падляшша?**

— Нават калі прыеду зноў на два тыдні ў верасні і так не ахаплю Падляшша! (*смех*) Аднак прыеду, каб завяршыць працу. Хачу лепш пазнаць гэты рэгіён.

**— І сябе?**

— Сябе? Некаторыя гавораць, што маючы 40 гадоў, сапраўды чалавек пачынае падводзіць вынікі жыцця. (*смех*) Магчыма, ашукоўваю сам сябе, гаворачы, што раблю праект аб ісламе, каб кагосьці адукаваць на Захадзе, а праўда можа быць такая, што я сам той адукацыі патрабую.

**— Селім Міхал Карыцкі — нашчадак старажытнага роду татарскіх князёў з Лоўчыц, што на Беларусі. Радавіты гданьшчанін. Менавіта сюды ў саракавых гадах сям’я Карыцкіх з’ехала ў рамках рэпатрыяцыі. Селім больш за дэкаду жыве ў Лондане, дзе вучыцца ў London College of Communication University of the Arts і працуе фатографам. Дзед Селіма, Міхал, князь Эндыгей Эмірза Карыцкі, доктар медыцыны, быў адным з арганізатараў медыцынскай службы ў Трыгорадзе. Міхал Карыцкі быў таксама скарбніцай ведаў пра традыцыі Вялікага Княства Літоўскага.**

Тэкст і фота
**Уршулі ШУБЗДЫ**


9 770546 196000



# Ленан
## мацней Леніна?

Апошнія гады тры вяду я свой асабісты, крыху дзіўны, маніторынг. Назіраю за кашулькамі і надпісамі на іх, якія носяць людзі ў нашым горадзе над Нёманам. Асабліва плённым для такога назірання, натуральна, з'яўляецца летняя пара. Такім чынам за гэты час праз прызму маіх акуляраў прайшлі нават не соткі, а тысячы выяваў і надпісаў на разнастайных цішотках ды швэдарах. Далёкіх высноў з гэтага не раблю і рабіць не збіраюся, але некаторымі назіраннямі гатовы падзяліцца. Ёсць такое, больш чым спрэчнае, афарыстычнае сцвярджэнне, „ты ёсць тое, што ты ясі”. Намякае гэтае выслоўе на стыль харчавання і адпаведны выгляд чалавека. Перафразуючы яго, можна сказаць так: у тваёй галаве тое, што напісана на табе. Бясспрэчна адно, чалавек з пэўным наборам духоўных каштоўнасцей, палітычных і грамадскіх арыенціраў, абы што на сябе не апране. Не ў сэнсе якасці матэрыялу ці кошту рэчы, а менавіта ў сэнсе зместу надпісу.

Першая павярхоўная выснова з маіх назіранняў такая — адсоткаў 80 напэўна не задумваецца над тым, што апрануць на сваё тленнае цела. Бальшыня з іх нават не разумее, што напісана на той ці іншай кашульцы. Паколькі тут падыходзім да іншага майго падсумавання — каля 90 працэнтаў тэкстаў на цішотках — гэта англамоўныя надпісы. Ну а з валоданнем англійскай мовы ў насельніцтва нашай, у значнай ступені адарванай ад еўрапейскай сістэмы адукацыі, самі ведаеце як. Асабіста я ёй таксама не валодаю, хоць многія пісаныя тэксты разумею і для сябе прымаю.

І вось у пэўнай ступені дзіўна, што рускамоўных тэкстаў на кашульках гарадзенцаў зусім мала. Няўжо Ленан сапраўды настолькі перамагае Леніна. Хоць тут можна пасмяяцца і сказаць, што бальшыня моладзі нават не ведае, што гэта за асобы гісторыі. На кашульках гэтых персанажаў дваццатага стагоддзя зараз не носяць. У моладзі і юнакоў больш папулярны іншы герой — той жа Гары Потэр, партрэты якога можна пабачыць часта. Зрэдку можна сустрэць папулярныя некалі цішоткі з выявай незабыўнага і палымянага рэвалюцыянера Чэ Гевары. За тры гады сустрэў я аднойчы ў Гродне маладзёна і з партрэтам Пуціна. Часцей сустракаліся маладыя людзі ў майках з надпісам СССР. Магчыма, такія кашулькі раздаюцца ў час нейкіх юбілейных прасавецкіх мерапрыемстваў, якія ў вялікай колькасці арганізоўваюцца і праводзяцца ў цяперашняй Беларусі.

Такі вялізны адсотак англамоўных кашулек можна растлумачыць канешне фактарам вытворчасці — з аднаго боку сярод фірменных кашулек, якія набываюць моднікі і модніцы, канешне, пераважае мова Шэкспіра. З іншага — крамы таннай адзежы, так званыя „сэканды” перапоўнены зноў жа англамоўнай прадукцыяй.

Што да іншых моў, то сярод астатніх дзесяці адсоткаў спектр іх дастаткова шырокі. Цешыць, што пры агульнай русіфікацыі горада і краіны, рускамоўных цішотак не так многа. Ёсць крыху нямецкамоўных кашулек, нават лацінскамоўных, патроху з розных еўрапейскіх краін, куды любяць ездзіць беларусы і дзе ў іх пражываюць сваякі, якія прывозяць адпаведныя падарункі. Сярод моладзі марудна, але патроху становяцца папулярнымі беларускамоўныя саколкі. Праўда, іх пакуль мала ў продажы, а кошт параўнальна высокі. Людзей у польскамоўных кашульках даводзілася сустракаць дастаткова рэдка, пераважна гэта знаёмыя мясцовыя палякі і беларусы. Турыстаў тут пакідаем за дужкамі „даследавання”. Можна сустрэць і пісьмо на тканіне іерогліфамі, але ў параўнанні з колькасцю знаўцаў такой мовы на планеце, гэта кропля ў Жоўтым моры.

Што датычыць сцягоў розных краін, то тут зноў першынстве сімволіка Вялікабрытаніі. Часам можна сустрэць выявы сцяга ЗША, Грузіі. Грузінскі сцяг у Гародні, дарэчы, можна пабачыць і ў натуральным выглядзе — на стадыёне на матчах „Нёмана” — так землякі Шата Руставелі падтрымліваюць гульца-легіянера, які выступае за гарадзенскі клуб. Частка ходзіць з афіцыйнымі дзяржаўнымі гербамі РБ, пераважна гэта спартсмены ў адпаведнай вопратцы.

Такія вось вынікі майго суб'ектыўнага і не зусім прафесійнага маніторынгу. Не ўсё ж пра сур'ёзнае...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Пісьмовы стол кіраўніка

Свет, Еўропа, Польшча... Нічога не адбываецца. Расія рыхтуе вялікія ваенныя манеўры сумесна з Беларуссю — прама пад носам у НАТО, рукой падаць да Польшчы; тыкае палітычныя брудныя лапы ў нетры Украіны, спасылаючыся на новы дзяржаўны штат — Маларасію, нацкоўваючы краіны ЕС адну на адну, перасварваючы народы. Але нічога не адбываецца. ЗША мучыцца са сваім Трампам. Карэя са сваім Кімам. Нафта даражэе. Чалавечае жыццё таннее. ПіС пераўзыходзіць усе межы нахабства. Яшчэ крышку і рушыць на Вільню і Львоў. Але нічога не адбываецца. І гэта здзіўляе. Нічога не адбываецца з таго, што не было. Змяняецца толькі гістарычная тапаграфія. Карта падзей па-ранейшаму тая ж самая. Войны, спрэчкі, выразанні і пажары. Калі таўкуцца злева, тыя справа любяць мір. І хутка змяняюцца бакі. Там дзе таўклі па чэрапах дубінкамі, там цяпер стукаюць пальцамі ў разбітыя ілбы. І неўзабаве будзе наступная змена. Чалавечы чэрап крохкі, але мозг, які хаваецца ў ім, бетонны. Чалавечы нязменны мозг. Сказаць, што ўсё ўжо адбылося, гэта труізм. Але і мудрасць Саламона. Мудрасць, якая дасягае тысячы гадоў. Мудрасць, якая вызначае пачатак чалавечага глупства.

Нагадаўся мне пісьмовы стол, вялікі быццам бы стол для пінг-понга. Такі быў унесены ў мой «кабінет», калі я стаў кіраўніком аддзела маркетынгу ў буйным дзяржаўным прадпрыемстве ў Варшаве. Да таго часу фірме не была патрэбная маркетынгавая падтрымка, хоць яе дзейнасць распаўсюджвалася на ўсю краіну і частку Еўропы. Для большасці адміністрацыйнага персаналу, доўгатэрміновых жыхароў цёплых штатаў, даязджаючых на працу з Пултуска і наваколля, мая функцыя здавалася быць капрызам новай Управы, якую ўсе ненавідзелі. Хадзіла ўпартая чутка, што штат быў прызначаны для таго, каб ліквідаваць кампанію, прадаць усё што можна за грашакі, а людзей выкінуць на брук. Слых паралізаваў чалавечыя розумы. Паўсюль блукаў смурод дрэнных эмоцый. Аб гэта клапаціліся паслугачы былога кіраўніка, дэлегаваныя новым кіраўніцтвам на падпарадкаваныя пасады або звольненыя. Маім маркетынгавым, ці дакладней піярным заданнем было, у прыватнасці, інфармаванне грамады супрацоўнікаў, якія выгады, але і рызыкі могуць паўстаць у выніку рэструктурызацыі фірмы-банкрута.

Да гэтага часу я не ведаю, што падмовіла мяне ўзяцца за гэтую працу. І гэты пракляты стол. Маё эга не раўнялася з яго веліччу і з плошчай «кабінета». Ён быў памерам закінутай каморкі на непатрэбнае смецце. І сапраўды быў ёю. Гэты велічны стол, за якім сядзеў калісьці стары кіраўнік, адпавядаў яму як пальчатка. Запаўняў кабінет поўнасцю. Для мяне не хапала там месца.

Але часы былі тады цікавыя. Тэмп палітычных пераўтварэнняў паскорваўся, нягледзячы на тое, што праліберальны ўрад Ежы Бузка траціў грамадскую падтрымку. Як вельмі, аказалася праз паўгода, калі ў выбарах у органы самаўрада Кааліцыя АВС цалкам прапала і самаўрады перахапіў СЛД са сваімі папулісцкімі лозунгамі. Неўзабаве пасля ўсеагульных выбараў ён захапіў усю ўладу ў краіне. Нягледзячы на гэта, разам з маімі босамі мы лічылі, што ідзем па правільным шляху. Да часу. СЛДоўскія чыноўнікі жвава ўзяліся за працу. Маладую ўправу з дня ў дзень прагналі. Шматмесячная праца знакаміта адукаваных, маладых і амбіцыйных менеджараў, якія мелі прыватызаваць фірму і вывесці яе з эканамічнага калапсу, была дарма страчана. Кіраўнік старой управы, які падаўся быў на непажаданую пенсію — завушнік СЛДоўскай улады — вярнуўся на старое смецце ды адразу патрабаваў свой стол. Я, пазбаўлены стала, прызямліўся на бруку. Мой «кабінет» быў ператвораны зноў у каморку. З апошніх пасад на свае кіраўнічыя пасады вярнуліся трыумфальна завушнікі старога кіраўніка. Пасля меншых і буйных персанальных чыстак, пасля трыумфальных вяртанняў і відовішчных адыходаў усё вярнулася да старога парадку. Фірма зноў вярнулася да непазбежнага банкруцтва. З часам пусты папулізм СЛД вычарпаў цярпенне выбаршчыкаў. Да ўлады вярнулася ліберальная правіца. Абтрапалі з пылу ідэі прыватызацыі фірмы. Стары кіраўнік збег на заслужаную пенсію. Новае кіраўніцтва пазбавілася ад яго падручных. Неўзабаве быў назначаны новы склад Управы. Падчас кіравання ГП прабавалі так ці інакш ратаваць фірму на мяжы банкруцтва. Калі ўладу ў Польшчы захапіла ПіС, фірма стаіць як стаяла на мяжы банкруцтва. А стол у каморцы, чакае лепшага часу.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Злётаць у Моталь

Марыць і верыць трэба. Калі гэта робіш, то задуманае здзяйсняецца. Не інакш было ў выпадку і маёй справы. Калі ў 2008 годзе адбыўся першы фестываль фальклору „Мотальскія смакі”, мяне заінтрыгавалі дзве справы. Як палешукі спраўна задумалі і выпрамаваць сябе, і сваю славутую вёску яшчэ больш, ды на гэтым падзарабіць дадатковыя рублі. А яны не лішнія кожнаму, таксама працалюбівым жыхарам вёскі, што распалажана на правым беразе Ясельды. Праўда, тут меліярацыя пабольшыла сенажаці, але паменшыла разліўнасць і вялікасць рэчкі, а затым паслабела і водна-рыбная сфера занятасці заходніх палешукоў. Распаложаная яна ў адлегласці дваццаці кіламетраў ад раённага горада Іванава Брэсцкай вобласці. Сёння налічвае каля пяці тысяч жыхароў. Але Моталь у сэнсе вядомасці і славутасці з'яўляецца адным з тых духоўных месцаў Беларусі, слава якога даўным-даўно пракацілася па-за межы Беларусі. Паводле паданняў назва вёскі вядзе свой пачатак ад яе жыдоўскага заснавальніка Мотла, які прыбыў у палескія недасяжныя мясціны зарабляць на мясцовым насельніцтве рамеснай умеласцю і прытым падвучыць яго рамяству таксама. Таму Моталь, як жыдоўскае мястэчка, даў свайму народу знакамітых палітыкаў, навукоўцаў, людзей культуры. Няма тут месца іх усіх пералічыць, але некаторых трэба проста згадаць. У Моталі нарадзіўся першы прэзідэнт Ізраіля Хаім Вейцман (1874-1952). Таксама адсюль паходзяць амерыканскія музычныя прадзюсары Леанард Чэс і Філіп Чэс, якія зрабілі вядомымі найбольш яскравых выканаўцаў блюзавай музыкі — Мадзі Уотэрса, Уілі Дыксана, Коко Тэйлар, Бо Дзідлі, Сані Бой Уільямса, Чака Бэры.

Першы пісьмовы ўспамін пра Моталь як прыватнае ўладанне змяшчаецца ў актах Літоўскай метрыкі і датуецца 1422 годам. У сярэдзіне XVI ст. Моталь атрымаў статус мястэчка і, паводле рэвізіі 1555 года, меў магдэбургскае права. У выніку трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай (1795) Моталь апынуўся ў складзе Расійскай імперыі, дзе стаў цэнтрам воласці. Згодна з Рыжскай дамовай (1921 год) Моталь апынуўся ў Польшчы, дзе стаў цэнтрам гміны. У 1939 годзе Моталь увайшоў у склад БССР і атрымаў статус пасёлка гарадскога тыпу. У 1954 годзе статус паселішча панізілі да вёскі, якая стала цэнтрам сельсавета.

Мне вельмі хацелася трапіць у Моталь жнівеньскай парою, у час кулінарнага свята Палесся. Пра яго ход я сачыў гадамі ў інтэрнэце і ўзбударажваўся прачытаным і пачутым. Ну і зразумела аблізваўся смакам ад колькасці народных, кулінарных ласункаў. Пры тым моцна злаваўся, што там дагэтуль не пабываў, але вынікала гэта з прычын ад мяне незалежных, значыць, ад візавага пытання. Ну і на мінулыя выходныя, мае мары, дзякуй Богу збыліся. А паколькі паляшуцкі свет у прыгожай, выяўленча-мастацкай эстэтыцы фарміруе свае з ім адносіны, то і я таксама ўдзячны яму за ягоную ласку. Зараз у яго выразна штораз больш залацісты колер купалаў, якія не нагадваюць пра жытнёва-пожневыя палі, але больш увязваюць разнародную, праваслаўную прастору ў нейкую эстэтычную ідэалагізаванасць. Апярэджваючы, хачу сказаць, што на мотальскіх вуліцах зараз „раскрасаваліся і залатыя крыжы”. Больш нідзе гэтага не бачыў. Толькі ў Моталі.

Дзесяцігоддзямі гэтая вёска славілася перш за ўсё вырабам кажухоў, каўбас ды ручнікоў. Выстаўкі тутэйшых ручнікоў мелі месца ў звыш дваццаці краінах свету. Такіх стракатых бел-чырвона-чорных колераў нідзе больш не сустрэнеш. А як гаворыць народная легенда, то нават славутыя мадэльеры пераносяць мотальскія матывы на свае мадэльныя строі. Мода з Моталя паплыла ў свет.

У суботу, дванаццатага жніўня, урэшце трапіў я на першы дзень ужо восьмага Міжнароднага фестывалю фальклору „Мотальскія прысмакі”. Ужо сам вітальны, уязны знак у Моталь уражвае кожнага, хто меў дачыненне з беларускай рэальнасцю. Тут на эстэтычным каляровым стэндзе ідуць надпісы, між іншым, на беларускай, расейскай і жыдоўскай мовах, а сам буклет фестывалю і ягоная выява віднее на васьмі мовах. Аднак найважнейшай мовай свята была сакавіта-жыватворная палешуцкая размова. Аб ёй напішу праз тыдзень.

**Яўген ВАПА**



■ «Маланка»

# Сяброўскія, беларускія сустрэчы ў Міхалове

**Аказваецца, і масавае мерапрыемства можна сарганізаваць і правесці на адпаведным узроўні. Беларускія фольк-сустрэчы ў Міхалове ўразілі людской прастатой, шчырасцю і дабрынёй. Вельмі важныя і не надта важныя персоны, бедныя і багатыя, зляпіліся ў адну весела гуляючую грамадку. Сапраўды — сяброўская бяседа. Вядучыя канцэрт ветлівыя і культурныя. Ніхто не крычаў у мікрафон: купляйце мае падушкі, кашулі ці майткі. Абышлося таксама без падманнага для вуха плэйбека. Жывы гук быў адзінай умовай, пастаўленай перад выканаўцамі Марцінам Сякеркам — дырэктарам тутэйшага Гміннага асяродка культуры. З другога боку, што ж гэта за артыст, калі на канцэрце замест жывога голасу прапануе некалі запісаную яго студыйную апрацоўку. А сам, быццам рыба на беразе, толькі губамі рухае.**

— У гэтым мерапрыемстве перш за ўсё ставім націск на гасціннасць, — сцвярджае нашаму тыднёвіку спадар Сякерка. — Адной з галоўных мэт мерапрыемства з'яўляецца сустрэча калектываў. Сёння ў нас выступае іх дваццаць пяць. У так вялікай грамадзе заўсёды вельмі весела і прыемна. Спяваюць і на сцэне, і за сцэнай амаль да раніцы.

Накont месца беларускай культуры ў дзейнасці Гміннага асяродка культуры яго дырэктар сказаў:

— Беларускія фольк-сустрэчы сваім маштабам перавышаюць нават Дні Міхалова. Суседнічаем з Беларуссю, наша гміна — шматкультурная, таму малодшых знаёмім, а старэйшых падтрымліваем у трыванні ў беларускай культуры і мове. Апрача таго дзейнічаюць у нас два беларускамоўныя калектывы — «Славянская нота» і «Фенікс».

Беларускія ініцыятывы спадара Сякеркі выдатна падтрымлівае рэстаран «Гаспода Міхалова». На дзвярах рэстарана вісіць нават аб'ява пра бескарысную дапамогу ў арганізацыі сённяшняга мерапрыемства.

Як выявіла адна з працаўніц гасподы, форма падтрымкі — фінансавая.

І як тут не купіць свойскі халаднік з агародніны са смажанай бульбай, не напіцца кавы «эспрэса». За сталом сустракаюся з зоркамі вечара — паморскім калектывам «Жэпчыно». Іх спецыяльнасць — фольк з моцным ударам. Крыху хвалююцца ці ўдар не будзе надта моцным як на ўмовы такога мерапрыемства. Асабліва з прыезду ў Міхалова цешыцца гітарыст Адам Тэпурскі. На Памор'і не хапае яму ўсходняй дабрыні і душэўнага цяпла. Яго дзед — пасляваенны рэпатрыянт — быў старшынёю калгаса на Беларусі. На інспекцыі адпраўляўся, як і належыць сапраўднаму казаку, на белым кані. Ад сваякоў, якія наведалі бацькаўшчыну некалькі гадоў таму, даведаўся, што сямейная, драўляная хата яшчэ там стаіць. Адам марыць пра паездку ў Беларусь. Пакуль спалучаецца з Усходам праз пасрэдніцтва музыкі. Апрача калектыву «Жэпчыно», з якім цяпер выступае, іграе яшчэ ў фолькавай русінскай «Згагафары». Марыць пра кар'еру лірніка. Ужо заказаў інструмент у народнага майстра. Фальклор, як сам прызнаецца, дазваляе адарвацца ад камерцыі і штодзённай мітусні, надае сэнс жыццю і спалучае асаблівых, такіх як ён, людзей.

■ Канстанцін Скарупскі

«Гаспода Міхалова» суседнічае з адрамантаваным будынкам медыцынскага цэнтра «Медыкаль». Тут дапамагаюць Беларускім фольк-сустрэчам бясплатнымі медыцынскімі паслугамі. Пераможцу мінулагодняга конкурсу на верш пра фольк-сустрэчы Канстанціна Скарупскага з Тапалян узнагародзілі бясплатным лячэннем зубоў. Праўда, спадар Канстанцін сваіх зубоў ужо не мае, але ўзнагародай з задавальненнем пакарысталася ягоная дачка. У сёлетнім конкурсе стартуе з новенькім творам:

Дзе б мы не прабывалі,
памятаць мусім заўсягды,
Што б мы не забывалі,
дзе наша родная старана.
Дзе нашы бацькі трудзіліс,
дзе мы на свет прыйшлі,
Дзе першых слоў мы навучыліс
і ў дарослы век увайшлі.
І нашу мову праслаўляйма,
каб нашы дзеткі помнілі
І гэтай мовы навучайма,
каб зналі, кім бацькі былі.

Спадар Канстанцін падрыхтаваў яшчэ верш-падарак для мясцовага калектыву «Славянская нота».

Узнагароды атрымалі таксама ўсе ўдзельнікі мастацкага конкурсу на размалёўванне беларускага ўзору на майцы. Малявалі іх у спецыяльных палатках побач са сцэнай.

З ліку дваццаці пяці выступаючых калектываў наймалодшай паводле ўзросту спевакоў, была «Ластаўка» з Рыбалаў. Сустракаюся з імі ў жоўтай палатцы за сцэнай. Дзяўчаты, хаця яшчэ ў школьным узросце, ужо наносяць на губы яркую памаду. Побач з імі апякункі калектыву — малодшая Адрыяна Бяліцкая-Скаўронская і старэйшая Лідзія Мартынюк. З ахвотай распавядаюць пра сваю працу. Спадарыня Лідзія займаецца пошукам песень, а Адрыяна — прафесіянальная музыкантка, апрацоўвае іх і перадае дзяўчатам, якія па словах апякунак, да справы ставяцца вельмі адказна. Ёсць ужо рэзультаты — шматлікія ўзнагароды ў песенных конкурсах, а таксама запрашэнне да ўдзелу ў міхалоўскім мерапрыемстве.

Але не толькі музыкантаў прыцягваюць міхалоўскія фольк-сустрэчы. Сабралася тут таксама незвычайная брыгада з вёскі Цісоўка на чале з вядомым пісьменнікам Багданам Дудко. Марына — цісавянка родам з Масквы — называе яго сувязным не толькі з вёскай, але і з усім светам і сусветам. Ён, у сваю чаргу, называе Марыну душой. Светы і сусветы спалучае таксама іх аднавясковец родам з Бяшчадаў Франак Гвуздзь — па-нашаму Цвік. «Майстэр на ўсе рукі, — гаворыць пра яго Марына. — Нават хату сабе паставіў. У Міхалова прывёз драўляныя выявы лясных і хатніх духаў родам са славянскай міфалогіі.

І яшчэ Тодар Хомік — педагог, цісоўскі прымак з падсакольскай Слоі. Спадарыня Марына горача рэкамендавала купіць яго драўляныя птушкі. Супрацоўніцтва і сяброўства цісоўскай кампаніі можна толькі пазайздросціць.

А ўсіх міхалавян выпадае павіншаваць з так удалым святам творчасці і сяброўства.

Тэкст і фота **Іаанны ЧАБАН**

■ Працы Франка Гвоздзя



# Міхалоўская дэмаграфія

Зараз у Міхалоўскай гміне Беластоцкага павета пражывае 6790 чалавек у 69 населеных пунктах.

Шчыльнасць насельніцтва — 17 чалавек на квадратны кіламетр. На 100 мужчын прыпадае 101 жанчына. Ва ўзроставай групе 85 гадоў жанчын больш... у чатыры разы! О-го-го. Жанчыны жывуць даўжэй за мужчын. У Міхалоўскай гміне пяць цэркваў і два касцёлы. Гэта сведчыць аб тым, што тут жыве шмат праваслаўных беларусаў.

У 2010 годзе ў гміне пражывалі 7154 чалавекі, у 2011 — 7088, у 2012 — 6975, у 2013 — 6886, у 2014 — 6775 і ў 2015 годзе — 6790. Як бачым, жыхароў з кожным годам усё менш і менш.

У Міхалоўскай гміне найбольш людзей жыве ў горадзе Міхалове. Амаль палавіна ўсіх жыхароў гміны (3150). Найбольшымі вёскамі з'яўляюцца Новая Воля (300 жыхароў), Ялоўка (250), Бандары (235), Шымкі (200), Саколе (188), Навасады (157), Казімярова (152), Тапаляны (145), Жэдня (135), Геранімова (130), Юшкаў Груд (126) і Кабылянка (118). Да сярэдніх вёсак па колькасці жыхароў належаць Цісоўка (80 жыхароў), Пянькі (70), Мастаўляны-Калёнія (70), Леўшы (65), Масціска (85), Бахуры (64), Патока (58), Азяблы (57, Баршчэва (54), Ціванюкі (53) і Тыльвіца (51).

У вёсках жывуць пераважна старэйшыя людзі. Амаль кожны год ладзяць г.зв. залатыя вяселлі і ўручаюць медалі ад прэзідэнта РП для тых пар, якія маюць за сабой 50 гадоў шлюбнага сужыцця. У 2016 годзе ў зале шлюбаў у Міхалове медалі за шматгадовае шлюбнае жыццё ўручылі для 18 пар.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

# Яны любяць вышываць

Некаторыя вясковыя гаспадыні ў Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета займаюцца ручной вышыўкай. Яны вышываюць ручнікі, макаткі, белыя навалачкі на падушкі і святочныя белыя кашулі, а таксама карціны. Да гэтага трэба мець замілаванне і вялікую цярплівасць. Вышывальшчыцы каляровыя ніткі купляюць у крамах з махрой і мулінай, а некаторыя прывозяць з Беларусі.

Вышыўкай займаюцца Тамара Скепка з Забрадоў, Зіна Рубчэўская, Яўгенія Смольская, Ірэна Казлоўская, Марыя Целушэцкая і Нэля Харкевіч з Новага Ляўкова, Ірэна Ігнацюк, Крыстына Паскробка, Міраслава Балтрамюк і Галіна Прычыніч са Старога Ляўкова, Лідзія Харкевіч і Альжбета Кунцэвіч з Лешукоў, Данута Каліноўская з Новага Масева, Лена Харкевіч, Малгажата Краўчык, Галіна Бірыцкая, Людміла Зданоўская, Марыя Васько і Вера Клімюк з Плянты, Галіна Вяжхоўская з Заблотчыны ды Альжбета Матысюк і Галіна Панкоўская з Семяноўкі.

# Асфальт на вуліцы ў Гарадзіску

У пачатку ліпеня гэтага года паклалі асфальтавае палатно на вуліцы ў вёсцы Гарадзіска каля Нараўкі Гайнаўскага павета. Вёска невялікая — усяго 31 жыхар, але прыгожая, ціхенькая. Дагэтуль быў у ёй брук на 650-метровым адрэзку, а зараз на вуліцы ляжыць навюсенькі асфальт. На ўездах на панадворкі паклалі чырвоную брусчатку. У вёсцы ёсць вулічнае электраасвятленне. У зручным месцы знаходзіцца дошка аб'яў.

За стадоламі прабягае ваяводская шаша № 687 з Юшкавага Груда ў Навасады цераз Нараўку. У Гарадзіску тры гады таму на аўтобусным прыпынку ПКС пабудавалі прыгожую пачакальню. Раней не было пачакальні. На абочыне дарогі стаяў толькі слупок з раскладам язды аўтобусаў.

(яц)

# Утрыманне чыстаты і парадку ў Арлянскай гміне



■ Біялагічную ачышчальню сцёкаў у Орлі чакае разбудова

На сесіі арлянскай Гміннай рады 30 чэрвеня г.г. радныя прынялі пастанову наконт рэгламенту ўтрымання чыстаты і парадку на тэрыторыі гміны, а таксама ў справе ўсебаковых падрабязнасцей у паслугах збірання камунальных адкідаў ад уладальнікаў нерухомасцей і іх загаспадарання.

### Сістэма гаспадарання адкідамі

У канцы 2016 года сістэма гаспадарання адкідамі ахоплівала 1214 абжытых нерухомасцей, з ліку якіх 60 праводзіла неселектыўнае збіранне адкідаў.

Сума ўзносаў за гаспадаранне камунальнымі адкідамі склала ў цэлым 2016 годзе звыш 187 тысяч злотаў, а кошты абслугі сягнулі амаль 222 тысяч. Не ўсе ўладальнікі нерухомасцей плацяць узносы тэрмінова і паколькі не было адказаў на напаміны, справы былі пададзены судоваму выканаўцы. У пачатку бягучага года сума запазычанасці склала амаль 6774 злоты.

У першым квартале б.г. узносаў было амаль 58 тысяч злотаў, а запазычанасць склала 3615 зл. Прадбачваюцца даходы ад рэалізацыі гэтай задачы ў 190 тысяч злотаў, а адведзеная ў гмінным бюджэце квота складае больш за 260 тысяч.

З 1 ліпеня 2017 года ўступіла ў сілу распараджэнне, мэтай якога ўніфікацыя сістэмы селектыўнага збору камунальных адкідаў ва ўсёй краіне. Уводзіць яна пяць асноўных катэгорый-фракцый: папера, шкло, металы, пластмасы і біядэградавальныя адкіды.

Штогадова Пачатковая школа ў Орлі ладзіць зборку макулатуры, якую перадае на скупку ў Бельску. Тыя, што збяруць найбольш паперы, узнагароджваюцца. У мінулым годзе прайшоў першы выпуск мастацка-тэхнічнага конкурсу „Другое жыццё адкідаў".

У 2016 годзе ў Арлянскай гміне было сабрана і загаспадарана звыш 260 тон мешаных адкідаў і амаль 112 тон мешаных упаковачных адкідаў. Некаторыя адкіды былі загаспадараны ў гайнаўскім Прадпрыемстве загаспадарання адкідаў. Апрача гэтага было сабрана: звыш дзвюх з паловай тон зношаных пакрышак, звыш тоны электрапрыбораў, звыш трох тон вялікагабарытных адкідаў, звыш 19 тон мінеральных адкідаў (попелу), амаль 46 тон зялёных адкідаў, звыш 47 тон недэградавальных адкідаў, 106 кг небяспечных адкідаў, у тым упаковак з небяспечнымі кампанентамі 66 кг і 40 кг устарэлых лекаў. Закладзены на 2016 год узровень перапрацоўкі адкідаў 18%, у гміне сягнуў амаль 40%

### Прысядзібныя ачышчальні сцёкаў

У канцы мінулага года санітарнай каналізацыі ў Орлі было 9,5 км; да яе было падключана 276 гаспадарак. У Дыдулях паўкіламетра санітарнай каналізацыі, якая абслугоўвае многасямейныя будынкі; да яе падключана 29 карыстальнікаў, а сцёкі адводзяцца ў новую ачышчальню.

Управа гміны дафінансоўвае пабудову прысядзібных ачышчальняў сцёкаў. У 2008-2016 гадах пабудавана было 36 такіх ачышчальняў. Пабудова будзе прадаўжацца да поўнага задавальнення патрэб.

### Селектыўны збор адкідаў, выдаленне азбесту

Згодна закону кожная гміна абавязана трымаць пункт селектыўнага збору камунальных адкідаў. Пакуль такія дзеяння не праводзяцца, а збор адбываецца раз у год з выстаўленняў. Спробы зладзіць такі супольны пункт з горадам Бельск-Падляшскі не далі поспеху.

У ліпені-жніўні 2016 года рэалізавана была задача выдалення вырабаў з азбестам. Сабрана і ўтылізавана звыш 104 тоны такіх вырабаў. Кошт мерапрыемства перавысіў 40 тысяч злотаў, з чаго звыш васьмі тысяч было ўласнага ўкладу і амаль 32 тысячы вонкавых датацый.

### Прадухіленне бяздомнасці жывёл

Сур'ёзнай праблемай для жывёлаводаў Арлянскай гміны былі чароды бадзяжных бяздомных сабак; таксама ваўкі і зладзеі. Пакінутыя на пашыаначы, а бывала, што і ў дзень, цяляты, жарабяты і авечкі станавіліся ахвярамі галодных звяроў. Некаторыя сяляне начавалі на пашы разам са сваім дабыткам.

З 2016 года на тэрыторыі Арлянскай гміны дзейнічае праграма апекі над бяздомнай звярынай. У мінулым годзе адлоўлена было 27 бяздомных сабак, у тым ліку 9 шчанят, у вёсках Дыдулі, Маліннікі, Міклашы, Пашкоўшчына, Тапчыкалы, Градалі, Кашалі і Орля. Кошт адлову і ўтрымання ў прытулку сабакі складае 1800 злотаў, шчаняці — 400 злотаў. Рэалізацыя праграмы каштавала ў мінулым годзе 36 тысяч злотаў і гэтая квота была поўнасцю выдаткавана на адлоў і ўтрыманне ў прытулку ў Радысах.

Тэкст і фота Міхала МІНЦЭВІЧА

# Кожны тыдзень з „Нівай"

Усе экземпляры 31 нумара „Нівы" ад 30 ліпеня 2017 года я купіў у 27 ліпеня гэтага года ў крамах у Нараўцы і пасля поўдня ў той дзень родны часопіс атрымалі ад мяне і чыталі, між іншым, Валянціна Сухадола з Нараўкі (яна член калектыву „Цаглінкі"), Марыя і Канстанцін Целушэцкія з Новага Ляўкова, Марыя і Янка Янель ды Галіна Бірыцкая з Плянты.

28 ліпеня г.г. завёз я беларускі штотыднёвік Галіне і Аляксандру Скепкам, Вользе і Віталю Скепкам ды Ірэне Ігнацюк з Новага Ляўкова, Галене Барташук і Міхалу Харкевічу са Старога Ляўкова ды Веры Клімюк з Плянты. 29 ліпеня г.г. паехаў я з „Нівай" у Новіны да Мікалая Харкевіча і Канстанціна Ярошука. Са спадаром Ярошукам я не сустрэўся і часопіс пакінуў у яго скрынцы на пісьмы і газеты. У Новым Ляўкове завёз „Ніву" Марыі і Сяргею Саевічам ды Альжбеце і Уладзіміру Красноўскім, якія жывуць на новаляўкоўскай калёніі, а таксама Валянціне Самойлік у вёску Плянта. Пажылыя жыхары маёй вёскі ды з суседніх з „Нівы" даведваюцца, што новага, між іншым, у Нараўчанскай гміне і на Беласточчыне. Іншыя газеты чытае дзве-тры асобы. Яны маюць нагоду пагутарыць са мною, заадно з радным і солтысам. Я для іх не шкадую свайго вольнага часу.

31 ліпеня г.г. беларускі штотыднёвік узялі ў мяне Лідзія і Юрка Трусевічы, Зіна Сахарчук, Андрэй Пучынскі, Марыя Крышань ды Валянціна і Аляксандр Ігнацюкі з Новага Ляўкова. 1 жніўня г. г. быў я з „Нівай" у Анны і Юркі Бельскіх у Ахрымах ды ў Аляксея Сухадолы ў Падляўкове. Шмат аб чым успаміналі мы з маім сябрам Юркам, які шмат гадоў настаўнічаў у Малачарскім тэхнікуме ў Беластоку, а зараз на пенсіі і прыехаў на лета ў бацькоўскі дом у Ахрымах. Мы, калі вучыліся ў сёмым класе ў Пачатковай школе ў Старым Ляўкове, пісалі пісьмы ў „Зорку", я высылаў допісы і апавяданні, а Юрка — вершы. У гэты дзень завёз я беларускі штотыднёвік Яўгеніі і Яўгену Смольскім з Новага Ляўкова. Іх цікавіла, што і як я напісаў пра фэст у Нараўцы, на якім яны таксама былі.

Непрыкметна для мяне прайшоў тыдзень і я ўжо 3 жніўня гэтага года ўбачыў у краме ГС каля скрыжавання вуліц Гайнаўскай і Міцкевіча ў Нараўцы трыццаць другі нумар „Нівы" і купіў усе экземпляры. Падумаў пры тым, вось добра было б, каб больш асоб пацікавілася распаўсюджваннем роднага часопіса. Наш беларускі штотыднёвік паклалі ўжо на паліцах у крамах „Аргелян" і ў другой краме ГС каля Кааператыўнага банка ды на пошце.

4 жніўня г.г. у Нараўцы „Ніву" № 32 купіў Мікалай Варанецкі з Альхоўкі. Зайшоў я ў Гміннае ўпраўленне да войта Нараўчанскай гміны Мікалая Павільча і да сакратара гміны Міхала Бароўскага і яны знайшлі час, каб пацікавіцца, што зараз у новым нумары „Нівы" (у ім, між іншым, пра свята фальклору ў Нараўцы, пра гмінны конкурс на „Найпрыгажэйшую сялянскую сядзібу" ў Нараўчанскай гміне і пра новыя дошкі аб'яў у новаляўкоўскім салэцтве ў вышэйзгаданай гміне). Гэтага самага дня ў Нараўцы даў я „Ніву" Паўлу Каліноўскаму, радналу з вёскі Новае Масева. 5 жніўня г.г. завёз я родны часопіс Вользе і Віталю Скепкам з калёніі Новага Ляўкова.

Уняздзелю, 6 жніўня г.г. завёз я „Ніву" Веры Клімюк і настаўніцы на пенсіі Валянціне Самойлік з Плянты.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

Толькі скнара і лянівы не выпісвае „Нівы"



# Пярэдняя дамба супраць беларусаў

працяг з 33 н-ра «Нівы»

**ІНВЕСТАВАЦЬ НА НЕ СВАІМ**

Пра магчымасць пакарыстацца правам пераважнай куплі сваёй зямлі, якая аказалася быць лішняй у рэалізацыі дзяржаўнага плана, ведалі ў Міхалоўскай гміне ўжо ў 1998 годзе. Справа датычыла ўчасткаў, якімі ў палове васьмідзясятых гадоў Ваяводская ўправа сельскагаспадарчых інвестыцый надзяліла жыхароў пераселеных з затопленых вёсак участкамі па тры соткі. Людзі тыя сталі жыць у блёках на Аседлі Бандары. А зямля належала сям'і Міруцёў з Бандароў. Тая зямля цяпер мела вартасць у пару мільёнаў старых польскіх злотых, але датычыла пару дзясяткаў асоб, якія на ўчастачках разбілі свае агародчыкі. Пасадзілі кусты, дрэвы, навезлі добрай зямлі, удабралі яе і палівалі, атрымлівалі са сваіх міні-гаспадарак, прыгадваючых спачываючыя на дне возера, плён, падмацоўку сваёй пенсіі. Пра натарыяльныя акты тады і не падумалі — ані тыя, каму той кавалачак зямлі крэдытавалі, ані чыноўнікі, якія распарадзіліся зямлёй. На аснове новых законаў стала вядома, што колішнія ўладальнікі, якіх экспрапрыявалі з гэтай зямлі, маюць права яе вярнуць сабе, уплаціўшы ў дзяржаўную (тут гмінную) казну кампенсацыю за яе. Пакарысталася гэтай магчымасцю Зінаіда Міруць з Бандароў. Праўда, давялося ўсёй сям'ёй скласціся на выкуп бацькоўскай зямлі, гэтых амаль двух гектараў, наняты эксперт вылічыў кошт па чатыры злоты за метр. Узнік быў вялікі плач карыстальнікаў участкаў, да якіх яны дацягнулі на свой кошт ваду, пасадзілі дрэвы, паставілі парнікі для вырошчвання гародніны. Гміна запрапанавала ўласнікам замену зямлі на не менш атракцыйную...

А тут жа зямля сама-самая прывабная і дарагая. Пра гэта ведаюць і чыноўнікі, і людзі, якія хочуць або тут пабудавацца, або на ёй добра зарабіць. А чыноўнікі павінны ведаць таксама і законы, тым больш што ў кожнай гміне працуе свой юрыст, які павінен разбірацца ў абавязваючых законах і пільнаваць добра гміны, якая апрача маёмасці з'яўляецца таксама грамадой жыхароў. Аб іх добра трэба дбаць і не падвяргаць стратам. Так, як, здаецца не толькі мне, будуць страты не з-за злой волі чыноўнікаў ці самога войта, а праз невуцтва і абыякавасць тых, хто павінен — пільнаваць добра грамады і паасобных яе частак — жыхароў як цяперашніх, так і былых, бо ж яны стваралі тут дабрабыт і дбалі аб сваю зямлю. Тым больш, што іх правы гарантуюцца Канстытуцыяй, якая абавязвае і людзей, і арганізацыі ва ўсёй краіне. І «планы добраўпарадкавання» маёмасці павінны гэта прымаць пад увагу.

— Можа і не трэба кранаць тую справу экспрапрыяванай зямлі, якую можна вярнуць (вядома, не дарам), якая стала лішняй у дзяржаўным плане? — пытаецца ў мяне сяброўка. — Гэта ж цяпер **супольнае**, ніхто ж не робіць з ёю кепска. Паглядзі, колькі ў яе заінвеставалі. І народ карыстаецца.

— А калі б там была твая бацькаўшчына-дзедаўшчына? А ты яе нават і не купіш для таго, каб на сваім сядзібным участку аднавіць свой родны дом? А чужыя купляюць — усе, хто дасць **найбольш** на аўкцыёне?

— Ну, я з іншай гміны, у нас землі хоць заваліся, але такога возера няма! — падае мне дзіўны аргумент мая знаёмая, на якой роднай зямлі гаспадарыць брат, ужо сярэдняга ўзросту, ды бяздзетны. І не шыкуецца яму, здаецца, сямейнае шчасце. А ў былых гаспадароў прынарваўскіх вёсак, дзякуй Богу, ёсць яшчэ спадкаемцы. І не ўсе яны ўцяклі ў свет, як блага прарочыў спадар Топур.

І ёсць каму прыязджаць на родныя гоні, бо ж для людзей тутэйшых быў той план забеспячэння ў чыстую ваду і адпачынку пасля «фабрычных дзён» на ўлонні прыроды. А тут і фабрыкі заглухлі, нават у чорна-чырвонай Гайнаўцы, і ледзь сіпіць «беластоцкая фабрычная акруга». А планы ёсць, рэалізуюцца.

І ў тых, хто хоча сюды вярнуцца, і ў чыноўнікаў-гаспадароў. Гмінная ўстанова мае абавязак адказваць на запыты. Таксама на беларускай мове, калі б хтосьці падаў іх на роднай мове. У Нараўчанскай гміне можна, радныя рашылі, што беларуская мова можа быць тут дапаможнай. І Urząd Gminy, падмацоўваючыся пячаткай, адказвае, выдаючы zaświadczenie 18.03.2016 г.: „Гмінная ўправа ў Нараўцы інфармуе, што згодна з мясцовым планам прасторавага загаспадарання **адпачынковага комплексу** «Лука — Стары Двор» над вадасховішчам Семяноўка, зацверджаным Ухвалай № XVIII/161/01 Рады гміны Нараўка ад 24 красавіка 2001 г. (Dz.Urz. Woj. Podlaskiego Nr 14, poz. 270 z dnia 30.05.2001 г.) **участак н-р 1459/1** велічынёй 1**9,1999** га распаложаны ў абсягу Лукі прызначаны ў часткі на тэрыторыю паркавай, лугавой і лясной зелені са спартыўнымі, гулябельнымі, культурнымі і гастраномна-гандлёвымі прыладамі, а часткова пад агульнадаступныя пляжна-купальныя прылады і для спортаў і адпачынку на вадзе, са спадарожнічаючымі ім прыладамі і ўстаноўкамі такімі як пляжы, месцы для купання, памосты для прычалаў лодак і для прагулак, спартыўныя пляцоўкі для гульняў малых і сярэдніх, пераапранальні, санітарыяты, прылады для гульняў для дзяцей і моладзі, пляжы і купальні, спортпляцоўкі для гульняў на паветры, пазычальні прылад, месцы для вогнішчаў і аб'язныя гандлёва-гастраномныя прылады, часовыя або галоўным чынам для патрэб рыбнай лоўлі і бівакаў ды захоўвання чысціні, у тым ліку памосты для рыбалкі і прычальвання, ангары, пазычальні плавальных і рыбалоўных прылад, дашкі забяспечваючыя ад сонца і ападкаў, рыбачоўкі, смажальні рыб, падзеленыя месцы для абозаў з блізкім доступам да вады, аб'язныя і часовыя гастраномна-гандлёвыя кропкі, часткова месца пад моладзевыя турбазы, кемпінгі і палеткі на бівакі, часткова на даязныя дарогі, часткова пад прылады для воднага і зямных спортаў, патрабуючых умеласцей і ліцэнзій, асабліва плавання пад парусамі, веславання, віндсурфінгу, плавання на водных лыжах, боерах, а часткова пад агульнадаступныя прылады для воднага адпачынку, г.зн. для купання, культурнага адпачынку, шпацыраў па краявідзе, для аматараў парусных лодак, байдарак, для аматарскага і прафесійнага рабалоўства... А таксама для аховы краявіду, прыроды і дыдактычна-пазнавальнай навукі (...) Рыхтуецца таксам гольфавае поле і месцы для адпачынкова-дачнага будаўніцтва, што зацверджана Ухвалай н-р XVII/153/08 Рады Гміны Нараўка ад дня 27 кастрычніка 2008 г. (....) Участак н-р 1459/1, распаложаны ў Луцэ, прызначаны часткова для зялёнага абшару сарганізаванага згодна з правіламі для карыстання спортам і адпачынку — тут мае быць гольфавае поле з атачэннем".

Гмінная ўправа Нараўчанскай гміны заінвеставала ў пазычаныя ім землі і свае грошы, і еўрасаюзныя. Увесь участак, як неаднаразова піша Ваяводская ўправа меліярацыі і водных установак (ВУМіВУ) уваходзіць у чашу Семяноўскага вадасховішча, і можна яго арандаваць згодна **з запісаным** планам прасторавага добраўпарадкавання. Падобна як участкак 1459/1, як і 1457, арандуецца, пазычаецца і выкарыстоўваецца. Ліст з Агенцтва рэструктурызацыі і мадэрнізацыі сельскай гаспадаркі і Падляшскай бяспекі ОР паведамляе, што браліся непасрэдныя датацыі на ўчастак 1459/1. Тут яшчэ раз інфармуецца, што гэта экспрапрыяваныя грунты са шматлікіх участкаў, якія ўведзены ў склад цяперашніх участкаў памечаных цяпер нумарамі 1457 і 1459/1, яны ўласнасць дзяржказны — маёмасць ВУМіВУ у Беластоку (юрыдычны наступнік Вяводскай управы сельскагарадарчых інвестыцый у Беластоку). Варта прыгадаць, што ВУСІ пісала аб тым, што гэтыя ўчасткі ў вялікай частцы маюць застацца сельскагаспадарчымі.

А чаму цэлы ўчастак 1459/1 уваходзіць у склад Семяноўскага возера, яго чашы, якой вада належыць дзяржаве, хаця ўчастак ляжыць на сушы, у былой Луцэ? ВУМіВУ інфармуе яшчэ раз (2016 г. і 2017 г.), што «чаша вадасховішча Семяноўка ўтвораная з пярэдняй дамбы, пяці бакавых дамбаў і тэрыторыі якая знаходзіцца непасрэдна пад вадой да месца, дзе можа ўзняцца вада да 145 метраў над узроўнем мора, ды прылеглай тэрыторыі, ствараючай ахоўную зону вады (буфер), якая знаходзіцца пад пагрозай падтаплення і празмернай вільгаці. ВУМіВУ, усё ж, аддае ў арэнду гэтую тэрыторыю, хаця кожны раз агаворваецца пісьмова, што аддае яе «не дзеля ахвоты яе арандавання», а дзеля рэалізацыі мэт мясцовага плана прасторавага добраўпарадкавання. Гэтая дзяржаўная ўстанова схоча — можа адмовіцца, незалежна ад таго, што абедзве «зарэчанскія» гміны, асабліва Нараўчанская, самаўрадавая арганізацыя, утапіла ў гэтым быццам бы «падмоклым грунце», супольныя грошы сваіх жыхароў і аграмадныя сродкі з Еўрасаюза.

А як гэта бывае ў палітычным польскім хісткім жыцці — усё можна спрабаваць змяніць — нават увесь дзяржаўны лад, разам з яго канстытуцыйнымі правіламі... А кіраўнікамі дзяржаўных устаноў могуць раптам стаць парцейныя разумнікі-невукі, для якіх на дабры тутэйшых не будзе так залежаць, як святой памяці Аляксандру Мядзведзю, сыну Настассі і Восіпа.

(працяг будзе)

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**



## Найпрыгажэйшыя сядзібы ў Нараўчанскай гміне

Вось прозвішчы пераможцаў гміннага конкурсу „Найпрыгажэйшая сялянская сядзіба ў Нараўчанскай гміне ў 2017 годзе". Сёлета ў ім прыняло ўдзел 12 гаспадынь і гаспадароў.

У катэгорыі „прыхатні кветкавы агародчык і панадворак" першае раўнапраўнае месца занялі **Зіна і Яўген Рэнты** са Скупава ды **Тамара і Ян Скепкі** з Забрадоў, тры раўнапраўныя другія месцы занялі **Яўгенія і Юрый Равінскія** са Старога Ляўкова, **Галена Анішчук** з Семяноўкі і **Люба Леанеўская** з Міклашэва ды два трэція раўнапраўныя месцы занялі І**рэна Матвяюк** з Міхнаўкі і **Валянціна Янель** з Тарнаполя.

У катэгорыі „сялянская сядзіба" першае месца камісія прызначыла **Івоне Засім** ды другое **Юліце і Анатолю Матысюкам** — усе яны з Семяноўкі.

У катэгорыі „сядзібы агратурыстычных кватэр" першае месца заняла **Валянціна Германюк** са Скупава, другое — **Галіна Вяжхоўская** з Заблотчыны ды трэцяе месца — **Людміла і Барыс Казлоўскія** (агракватэра „Бора-здруй") з Новага Ляўкова. Віншуем! **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі


# Хаця мы былі кінуты на глыбокія воды журналістыкі, мы рабілі гэта з зацікаўленасцю...



У час Сустрэч «Зоркі» мы мелі магчымасць сустрэцца са знакамітым рэдактарам праграмы для нацыянальных меншасцей на Радыё Беласток Міхасём Сцепанюком. Ён даў нам інтэрв'ю на тэму яго прыгод і гісторый, звязаных з Сустрэчамі «Зоркі».

Спадар Міхась падказаў нам як пісаць фельетон. Мы даведаліся, што гэта форма, у якой неабмежаваная свабода пры выбары тэмы. Нават пра сур'ёзныя справы і праблемы можна пісаць лёгка, жартоўна і эфектна. Пасля пад кірункам радыёапаратара мы падрыхтавалі радыёперадачу пра Сустрэчы. Мы пагутарылі са сваімі сябрамі — тымі, якія тут першы раз, як і са шматгадовымі ўдзельнікамі.

На канец мы ўзялі інтэрв'ю ў спадарыні Ганны Кандрацюк-Свярубскай, якая сарганізавала нам цудоўныя майстар-класы. Гэта быў незабыўны досвед. Хаця мы былі кінуты на глыбокія воды журналістыкі, рабілі гэта з вялікай зацікаўленасцю. На памятку сустрэчы з рэдактарам Міхасём Сцепанюком мы зрабілі супольны здымак.

**Уля МАРЧУК**,
*«Васілёк»*





Малюнак Юстына Астапковіч

# Князь Іван

Даўным-даўно жыў у трыдзясятым царстве князь Іван. Ён дрэнна валодаў сваімі землямі. Абманваў людзей на ўсе магчымыя спосабы.

І вось аднойчы прыйшоў да яго просты мужык і кажа князю:

— Я многа чуў пра цябе! Ведаю, як любіш абдурыць людзей. Хачу з табой згуляць у шахматы.

— Давай, згуляем, — хітра ўсміхнуўся князь. — Калі прайграеш, будзеш у мяне блазнам.

— Згодны!

Гулялі яны доўга ці коратка, ну і ў рэшце рэшт выйграў мужык.

Князь пытае ў яго:

— Што табе даць за гэта? Якую хочаш узнагароду?

А мужык кажа:

— Хачу столькі зерня, што як на першым полі шахматаў будзе адно зярнятка, то на другім удвая больш, і так да канца, пакуль не запоўніцца ўвесь планшэт...

Калі князь палічыў, што ў яго княстве няма такой колькасці зерня, ён моцна расхваляваўся. Першы раз у жыцці нехта яго абдурыў. Ён надзяліў мужыка грашыма, ды чым хутчэй прагнаў яго з двара, каб ніхто не даведаўся пра яго пройгрыш.

**Крыстыян ПАСКРОБКА**,
*«Васілёк», выпускнік Нарваўскай гімназіі, ад верасня вучань Гайнаўскага белліцэя.*

## УВАГА КОНКУРС! № 34-17

**Звер, ды не калматы**
**І не паласаты.**
**Ён не есць і не раве,**
**Над аблокамі жыве.**
**М..........**

**(У. Мацвеенка)**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 27 жніўня 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 31-17: чарапаха. Узнагароду, CD з беларускай музыкай, выйграла Вікторыя Гаць з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

Авяр'ян Дзеружынскі

## Ячмень

Ячмень-вусач
Хаця калючы,
Але зусім,
Зусім не злючы...
На сонцы летнім
Зіхаціць,
Пад ветрам лёгкім
Шапаціць.
Даспее на палях
Ячмень,
Сажне камбайн яго
За дзень.

# «22 ці 27 каханняў?!»

*Добры дзень! Мяне завуць Міхасць Сцепанюк. Я з Бельска-Падляшскага. На Сустрэчах «Зоркі» я дваццаць дзявяты, — так пачаў сваю прэзентацыю ветэран Сустрэч «Зоркі», сёння вядомы журналіст Радыё Беласток. Пасля майстар-класаў, дзе супольна стварылі мы адмысловую радыёперадачу, рэдакцыя «Васілёк» узяла інтэрв'ю ў нашага сябра.*



**«Васілёк!: — *Калі Вы першы раз прыехалі на Сустрэчы «Зоркі»?***

**Міхась Сцепанюк**: — Дваццаць два гады таму назад. У 1995 годзе. Гэта былі першыя Сустрэчы. Яны адбываліся ў гміне Гарадок, у Меляшках. Я тады кончыў чацвёрты клас. Якраз былі канікулы. Мама атрымала ад «Зоркі» пісьмо на беларускай мове, якой яна ніколі не вучылася і таму не патрапіла яго прачытаць. Усе чакалі, калі прыйдзе з працы тата і прачытае, што там напісалі...

**В.: — *Ці на Сустрэчах Вы перажылі нейкае каханне?***

**М. С.:** — Пэўна, так. На кожных Сустрэчах было нейкае захапленне. Сёння не скажу вам — ці тых каханняў было дваццаць два, ці дваццаць сем?! Памятаю захапленне з Сустрэч у Бандарах. Была зіма. Я быў у пятым класе. Якраз выпалі «Валянцінкі». Магчыма, я падараваў ёй нейкую картачку. На жаль, не памятаю ўжо імя гэтай дзяўчыны...

**В: — *Што для Вас значыць культурна праводзіць час?***

**М. С.:** — Гэта значыць праводзіць час з нейкім культурным эфектам, каб нешта засталося. Апошнім часам мая жонка забірае мяне ў тэатр, можна сказаць, што адукуе мяне ў гэтай сферы. Таксама можам сесці на ровар і ехаць, пацікавіцца рознымі месцамі, пайсці на шпацыр, а перш за ўсё — чытаць. Я маю такую сістэму, што чытаю мудрыя кніжкі, але люблю таксама «фантасты» польскіх і замежных аўтараў. На жаль, у Беларусі няма аўтараў, якія стваралі б, уласна, такую літаратуру.

Калі ідзе пра мудрыя кніжкі, я зачытваюся апошнім часам у лацінаамерыканскую літаратуру. Часам, калі знайду, чытаю ў арыгінале. Час ад часу чытаю гістарычныя кніжкі, але мусіць там быць важная тэма, з якой я штосьці вынесу.

**В.: — *Ці любіце сваю працу на радыё, ці можа хочаце яе памяняць?***

**М. С.:** — Мне мая праца падабаецца. Маю такое меркаванне, што ў момант, калі мне перастане падабацца, я памяняю яе. Зараз я знайшоў залатую сярэдзіну — працую на Радыё Беласток, гэта мая галоўная праца, дзякуючы гэтаму раблю цікавыя рэчы. Люблю яшчэ адну справу — навучаць іспанскай мове. Я да гэтага вярнуўся. Калі толькі закончыў універсітэт, то супрацоўнічаў з Радыё Рацыя і вучыў іспанскай мове. Пасля журналістыка мне так спадабалася, што я пакінуў навучанне, пайшоў працаваць на Радыё Беласток, а паміж гэтым я кіраваў Рэдакцыяй нацыянальных меншасцей. Так што не было часу на іншыя справы. Зараз я зноў вярнуўся да навучання. Гэта праца, якую трэба вельмі любіць. Я пакуль яшчэ кахаю, але вядома як бывае з каханнем, яно можа скончыцца.

**В.: — *Якія тэмы найбольш Вам падыходзяць на радыё?***

**М. С.:** — Калі сустракаюся з людзьмі. На жаль, на радыё, у нашай сістэме працы бывае так, што ў адзін выезд трэба правесці шэсць размоў, запісаць пяць тэм, тры гэта найменш.



Час тут абмежаваны. Я люблю, калі ёсць час, каб пагутарыць з чалавекам, пачакаць, каб ён адкрыўся — гэта адно. Другое, калі тэма крыху іншая, чым папярэдняя, калі гэта нешта арыгінальнае. У свой час я вельмі любіў на Радыё Беласток «інтэрвенцыі», калі штосьці дзеецца. Мы едзем на месца і супольна вырашаем праблемы. Тут патрэбная ўражлівасць, зразуменне для іншага чалавека.

**В.: — *Мы ведаем, што любіце падарожнічаць. Ці збіраецеся кудысьці ў падарожжа?***

**М. С.:** — Выбіраюся з жонкай у Іспанію. Калі мы бралі шлюб, я сказаў, што туды яе забяру. Увесь час штосьці „блакавала" гэту паездку. Мы любім падарожнічаць і проста самі сабе гэтую экскурсію наладзілі. Мы запланавалі маршрут і выбралі месцы, якія наведаем. Найперш паедзем у Мадрыд, а пасля ў Барселону і наваколле. Хачу паказаць жонцы, дзе я вучыўся.

**В.: — *Зычым поспехаў і цудоўных уражанняў ад Іспаніі!***

**М. С.:** — Дзякую!

**Апрацавала** *Уля Марчук,*
*выпускніца Нараўчанскай гімназіі, ад верасня — вучаніца Гайнаўскага белліцэя.*

---

Захар БІРЫЛА

## Сланечнік

Вырас сланечнік
Вышэй за плот,
Як вартавы стаў
Ля самых варот.

Жоўтая кветка,
Як сонца кружок.
Хто не заўважыць
Сланечнік здалёк?

Стаіць веліканам
Ён толькі адзін
Сярод агародных
Розных раслін.

---

## Польска-беларуская крыжаванка № 34-17

Zupa | No | Skarb | Słuch | Kot | Zasięg | Kierownica | Głóg | Stóg | Globus | Żelazko | Tratwa | Żeby | Obok | Mig | Lot | Groch | Mag | Chińskie imię | Ar | Bierz | Amur | Niemen | Ar | Gitara

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 30-17:**

Палёт, сум, хор, сам, ласункі, сонца, смакі, то, нос, гарызонт. Расол, раса, мёд, суніцы, шанц, сумка, но, лоб, тон, маг, мост.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі **Вікторыя Гаць** і **Дам'ян Карнілюк** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім. Віншуем!



# «Перапяліца» ў Тапарках

■ Жыта сваёй касой касіў Рыгор Бобік з Тапарок

**Тапаркі яшчэ не здаліся, так як многія нашы вёскі, дзе амаль цалкам спынілася жывёлагадоўля. Тут даўно зрабілі стаўку на гадоўлю кароў і яшчэ цяпер раніцай і перад вечарам гаспадары гоняць іх табунамі праз вёску. Гаспадаркі ў сямідзясятых і васьмідзясятых гадах мадэрнізаваліся тут хуткімі тэмпамі дзеля аблягчэння працы пры гадоўлі кароў і вытворчасці малака. Сяляне куплялі дальныя апараты і тэхніку для механізаванай уборкі сена. Яшчэ і ў дзевяностых гадах збожжа ў Тапарках касілі перш за ўсё касілкамі і вязалі яго ў снапы традыцыйнымі перавясламі. Таму цяперашнія трыццаці- і саракагодкі ў сваім дзяцінстве рабілі яшчэ перавяслы ў час доўгага і цяжкага жніва. Калі 23 ліпеня солтыс Тапарок Вяслава Бакун і Гарадскі асяродак культуры, спорту і рэкрэацыі ў Кляшчэлях арганізавалі ў Тапарках этнаграфічнае мерапрыемства, якое назвалі «Перапяліцай», жыхары гэтай вёскі вучылі прыезджых асоб як рабіць перавяслы, якімі пазней вязалі ў снапы скошанае касой і зжатае сярпамі жыта. Пасля ўдзельнікі мерапрыемства састаўлялі снапы ў мыдалі і ляшкі, а з недажатага збожжа выканалі ўпрыгожаную кветкамі «перапяліцу». Падчас працы і ў перапынках спяваліся жніўныя песні, дзеткі збіралі каласкі жыта, якіх не падабралі жанчыны, а пасля жыхары Тапарок пачаставалі ўсіх стравамі, выкананымі паводле даўніх рэцэптаў.**

Спачатку перад святліцай у Тапарках сталі збірацца вяскоўцы і жыхары суседніх сёл. Далучыліся да іх члены музычных калектываў. У беларускім калектыве «Арляне» з Орлі галоўнымі завадатарамі ў час стаўлення ім этнаграфічных абрадаў з'яўляюцца Віталій Соха з Тапарок і Валянціна Марціновіч з Краснага Сяла. Менавіта яны павялі сабраных са спевам жніўнай песні «Чыя ж то волока» на поле Сцяпана Краўчука і там кіравалі чарговымі этапамі абраду «Перапяліцы». Жыхары Тапарок, якіх палі распалажаны ў Кляшчэлеўскай і часткова ў Арлянскай гмінах, спявалі са спрактыкаванымі ў спеве членамі калектыву «Арляне», жаночага калектыву з Дабрывады і дзяўчатамі з калектыву «Дабрына» з Беластока. Жыта на полі Сцяпана Краўчука расло адразу за яго садам. Праца на палетку пачалася з малітоўнай просьбы: «Госпадзі, дапамажы жыта выжаці». Збожжа найдаўжэй касіў Рыгор Бобік з Тапарок, які прыйшоў са сваёй касой. Жнівом стала кіраваць солтыс Тапарок Вяслава Бакун, якая размяркоўвала працу паміж касца і жанчын, якія падбіралі за ім жыта. Пазней на поле выйшлі жанчыны з Тапарок з сярпамі ў руках і зжатае збожжа клалі на загадзя выкананыя перавяслы і вязалі яго ў снапы. Перавяслы рабілі жнейкі і асобы з публікі пад наглядам Віталія Сохі. Снапы састаўлялі ў мыдалі, у якім дзевяць снапоў, пастаўленых вертыкальна, прыкрытых трыма снапамі пакладзенымі на іх гарызантальна, і ў ляшкі, у якіх дзевяць снапоў прыкрытых вертыкальна адным снапом жыта. У ляшках дзясяты сноп, перавернуты каласкамі ўніз, настромліваўся на апошнія снапы. Ахоўныя пакрывалы з аднаго і трох снапоў выкарыстоўваліся нашымі продкамі для зберажэння апошніх дзевяці снапоў ад адмоўнага ўздзеяння дажджу. Зжатае збожжа сохла на палях і пасля звозілі іх у клуні, або складалі ў стагі, а пазней малацілі.

— У Тапарках у мінулым збожжа жалі сярпамі, а пасля мужчыны сталі касіць косамі. Тады праца ў час жніва пайшла намнога хутчэй. Для мужчыны касіць збожжа было цяжка. Жанчынам у сваю чаргу падбіраць з пакосу было лягчэй і хутчэй, чым працаваць з сярпом. Калі на поле ўвайшлі конныя, а пасля трактарныя касілкі, аблягчэнне жніўных прац было яшчэ большае. Тут, у Тапарках і ў суседніх вёсках, складана было наняць снопавязалку і таму касілкамі мы касілі збожжа яшчэ і ў дзевяностых гадах, а пазней хутка на поле ўвайшлі камбайны. Тады не трэба было ўжо малаціць збожжа ў сябе і хадзіць на адпрацоўку да суседзяў і сваякоў, якія дапамагалі пры малацьбе. У нас клуні не былі вялікія і таму ўсё збожжа не мясцілася ў іх. Частку трэба было складваць у стагі і малаціць летам, каб не намокла восенню. Цяпер камбайн хутка змалоціць жыта, ці пшаніцу, але бывае, што з-за дажджоў складана дачакацца, каб збожжа на палях добра даспела і насохла, — распавядалі жанчыны з Тапарок.

— У мінулым зажынкі збожжа найчасцей адбываліся ў суботу. Мы стараліся не пачынаць жніво ў панядзелак, які лічыўся неспрыяльным для пачатку прац у полі. Уборка азіміны працягвалася тыдняў два і завяршалася выкананнем «перапяліцы», — сказала **Вера Цэтра** з Тапарок, якая раней жала збожжа, а пасля нават стала яго касіць. — У Тапарках яшчэ гаспадарацць і гадуюць кароў, а двух гаспадароў мае іх звыш дзесяці штук. Гадуюць таксама цялят. Для жывёлы збожжа патрэбнае на корм, таму жніво і цяпер надалей з'яўляецца важнай падзеяй у нашай працы.

Калі збожжа было скошанае і зжатае, а касцы і жнейкі сышлі з поля, увайшлі на яго дзеткі, якія стараліся сабраць як найбольш каласкоў. Такім чынам прымалі яны ўдзел у конкурсе, аб'яўленым выконваючай абавязкі дырэктара Гарадскога асяродка культуры ў Кляшчэлях Малгажатай Клімовіч. Аказалася, што ўсе дзяўчаткі і хлопчыкі сабралі многа каласкоў. Ва ўзнагароду дырэктар Малгажата Клімовіч дарыла дзеткам лусты хлеба з мёдам, спечанага традыцыйным спосабам у хлебнай печы. У гэтым часе солтыс Тапарок Вяслава Бакун, яе муж Мікола, Віталій Соха і Валянціна Марціновіч пачалі выконваць «перапяліцу». Нязжатыя на ўскраіне поля каласкі жыта сталі яны ўпрыгожваць кветкамі, рабінай, збоку паклалі каменьчыкі, а на іх — абрусак і хлеб. У гэты час гучалі жніўныя песні, а малодшыя ўдзельнікі жніўнага мерапрыемства шчоўкалі фотаапаратамі, увекавечваючы на здымках жніўны абрад.

— У нашай сям'і ў Тапарках «перапяліцу» рабілі мы на палетку недажатай пшаніцы. Іншыя рабілі і на жытнім палетку, так як мы робім сёння. Каля «перапяліцы» клалі невялікія каменьчыкі, але каля ўпрыгожанага збожжа клалі на зямлю плоскі камень, а на ім абрусачак і «хлеб для зайчыка». За ім хадзілі на поле маці хворых дзетак, перакана125ныя ў тым, што ў гэтага хлеба вялікія лячэбныя магчымасці якраз у дачыненні да дзетак. «Перапяліцу» клалі ў новазбудаваную клуню і на яе складалі прывезенае з поля збожжа. Каласкі збожжа, асвечаныя ў царкве ў дзень Успення Прасвятой Багародзіцы, выкарыстоўваліся падчас сяўбы, — распавяла беларуская паэтка і рукадзельніца па саломапляценні **Зоя Майстровіч** з Рудутаў, ураджэнка Тапарок, дзе навучылася жаць сярпом і пазнаёмілася са жніўным абрадам «Перапяліцы». Захоўваўся ён у гэтай вёсцы нават у дзевяностых гадах мінулага стагоддзя, калі збожжа касілі яшчэ касілкамі. Абрад знік з уваходам на поле камбайнаў. Тады гаспадары перасталі ўжо пакідаць збожжа на «перапяліцу». Яшчэ і зараз у наваколлі Тапарок невялікія ўчасткі жыта жнуць уручную, якое пасля нашы майстры выкарыстоўваюць для саломапляцення.

— Абрад «Перапяліцы» гэта вартасная ініцыятыва. Яе мэта — азнаямленне дзетак і моладзі са спосабамі колішняй уборкі збожжа і абрадам «Перапяліцы». Могуць тут павучыцца таксама і дарослыя асобы, якія не працавалі падчас жніва ў мінулым, — сказаў кляшчэлеўскі бургамістр **Аляксандр Сяліцкі**.

Выканаўшы «перапяліцу», калектыў «Арляне», спявачкі з Дабрывады і дзяўчаты з калектыву «Дабрына» з Беластока сталі спяваць жніўныя песні.

— Мы робім прамоцыю арганізаванаму ў нашай гміне этнаграфічнаму веласіпеднаму шляху — у Дабрывадзе ладзім выпяканне каравая, у Саках — бусліных лапаў, у Тапарках прэзентуем абрад «Перапяліцы», а ў Дашах паказваем аднойленыя крыжы. Хочам і ў наступных гадах ладзіць народныя абрады ў згаданых вёсках, — сказала дырэктар ГАК у Кляшчэлях **Малгажата Клімовіч**.

— У Дабрывадзе абрад «Перапяліца» падобны да запрэзентаванага тут абраду. У нашым рэпертуары таксама маем жніўныя песні, якія спявалі ў нас на полі падчас жніва, — заявіла **Ніна Яўдасюк** з дабрывадскага калектыву. Добра памятае яна жніво і абрад «Перапяліцы» з бацькаўскай хаты Найбукоў у вёсцы Войнаўка, дзе жала збожжа да выхаду замуж.

Жніўнае абрадавае мерапрыемства закончылася пачастункам для ўсіх яго ўдзельнікаў, якіх многа сабралася на панадворку Сцяпана Краўчука. Для іх жыхары Тапарок падрыхтавалі многа страў паводле мясцовых рэцэптаў. Нават хлеб быў спечаны традыцыйным спосабам у хлебнай печы. Быў і падпівак, якім у мінулым часта карысталіся падчас жніва, бо ён заспакойваў смагу і падбадзёрваў да працы ў полі. Бывала ў мінулым, што падчас выконвання «перапяліцы» абліваліся вадой. У Тапарках якраз пад канец пачастунку сыпануў дожджык. Частка сабраных раз'ехалася, а частка перайшла ў мясцовую святліцу, дзе можна было яшчэ паспяваць жніўныя песні.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**



■ Снапы састаўлены ў мыдаль

■ Зоя Майстровіч (з сярпамі ў руцэ) паказвае «хлеб для зайчыка» каля «перапяліцы»



# У прынцыпе пра Пушчу

**Дзень святога Ілы гэта важнае свята. Ужо адвячоркам папярэдняга дня пачуў я забарону ўсялякай працы. Ул. Васілевіч так быў пісаў у сваім „Народным календары": „Грымоты з маланкамі на Іллю тлумачылі тым, што гэта сам прарок у вогненнай калясніцы раз'язджае па небе. А каб не ўзнік пажар ад навальніцы, стараліся не працаваць. Калі ж выпадала сонечнае надвор'е, баяліся гневу Іллі, які можа пакараць грэшную зямлю і людзей засухай. Нормай лічылася, што прарок Ілля прынясе дождж: Ілля наробіць гнілля. Існавалі на гэты дзень больш-менш рацыянальныя аграрныя і метэаралагічныя назіранні: калі дождж — будзе жыта ядронае, але маланка папаліць арэхі; калі пагода — павінен быць добры сенакос; калі спякота — трэба чакаць працяглай зімы. Ад Іллі звычайна пачыналася доўгачаканае жніво...".**

Калі ў гэты дзень работа пагражае сур'ёзнай небяспекай, то трэба папросту яго перасвяткаваць. Задумаў я падацца ў Падбелле, бо там прыходскае свята ў гонар прарока. Падацца ў Падбелле можна чыгункай, якая зараз у працэсе перабудовы. Гэты працэс не надта прадказальны, бо адрэзак між Беластокам і Бельскам меў быць здадзены ў карыстанне на 11 ліпеня, а з пачаткам жніўня рэйкі ляжалі ўжо роўненька, але руху па іх яшчэ не было. Выбраўся я няспешна на прыпынак, спярша на прыпынак гарадскога аўтобуса. І хаця зайшоў я пунктуальна перад ад'ездам гарадской машыны, па ёй ужо і след прастыў; калі раніцай едзе маленька народу, то аўтобус не спыняецца на ўсіх прыпынках і апярэджвае графік.

Калі не атрымалася забрацца ў бок Падбелля, то ж на Ілью можна падацца ў Ячна, дзе калісь была царква пад заступніцтвам гэтага святога. Падаўся я на чыгуначны вакзал, але поезд у напрамку Сувалкаў, што спыняецца ў Ружанастоку недалёка Ячна, меў адпраўвіцца з Беластока пасля дзявятай гадзіны і на месца свята дабраўся б я, як гэта ў нас гаворыцца, на разбор шапак. Але пры нагодзе, калі перад вакзальнымі касамі не было чэргаў, падышоў я да крайняга акенца, дзе калісь быў інфармацыйны пункт, даведацца пра тэрмін запуску чыгуначнага руху ў напрамку Бельска. Касірка паінфармавала мяне, што зараз інфармацыйнага акенца няма, а калі па бельскай лініі пойдуць цягнікі, гэтага, мабыць, яшчэ ніхто не ведае...

Колькі часу будуецца чыгуначная лінія? Тут спешка небяспечная, трэба каб усё было зроблена акуратна. Хаця маглі быць і стаханаўскія подзвігі ў гэтай галіне яшчэ ў дастаханаўскую эпоху. Вось прыклад з нашага староння, за сапраўднасць якога цяжка ручацца. Адзін з кірылічных парталаў цытуе „Иллюстрированный путеводитель по юго-западной железной дороге" з 1898 года, які прыносіць такое паведамленне: „От станции Бельска отделяется *Беловежская ветвь* длиною 44 версты, врезывающаяся в знаменитую *Беловежскую пущу*, которая занимает всю северо-западную часть Пружанского уезда Гродненской губернии. Часть Беловежской ветви длиною 25 в. построена в 1894 г. в 58 рабочих дней, а вторая часть, от Гайновки до Беловежа, построена в 1897 г. Беловежская ветвь проходит по чудным просекам среди вековых деревьев. Экскурсия по этой ветви и прогулка по пуще любителю природы может доставить величайшее наслаждение". Вось, у царскі час за два месяцы праклалі чыгунку з Леўкаў у Гайнаўку, каля двух кіламетраў у суткі...

Гэты тэмп здзіўляе, але побач знаходзяцца інфармацыі, якія варта цалкам сур'ёзна працытаваць, бо хаця многа ў апошні час гаворыцца пра Белавежскую пушчу, то так па сутнасці не надта многа важнага пра яе прасочваецца ў інфармацыйную прастору. „Пуща занимает возвышенное положение, находясь на водоразделе между бассейнами Балтийскаго и Чернаго морей, при чем большая часть ея расположена в бассейне Буга и Нарева, одного из главных притоков Вислы; поверхность ея представляет слегка возвышенную равнину, со слабым склоном во все стороны, а группы невысоких холмов придают ей слегка волнообразный вид. Среди пущи встречаются болотистыя пространства, известныя под названием „Никор", откуда берут начало истоки рек и речек, направляющихся в разныя стороны к притокам Вислы, Немана и Припяти. Долины речек болотисты, а их русла заросли осокою и камышем. Почва в пуще супесь и песок, залегающие на толще мергельнаго суглинка; тощий, рыхлый песок — редкость. Густота леса, поддерживая постоянную влажность почвы, является причиною того, что климат Беловежской пущи суровее, чем в прилегающих к ней открытых местах; весна наступает здесь позже, лето прохладнее, а ясные дни, при холодных, нередко с туманами, ночах, сообщают особый оттенок климату пущи. Из растущих в пуще древесных пород первое место в количественном отношении занимают сосна, ель, береза, осина и ольха; затем — дуб, граб и ясень и наконец — липа, клен, берест и вяз. Кроме того, среди болота „Дикаго Никора" встречается пихта, а в урочище Незнамово тис, растущий кустиками до 2-х аршин вышиною. По



свойству и изобилию древесных пород, по разнообразию насаждений, по размерам дерев, — Беловежской пуще принадлежит безпорно первое место среди лесных дач России". Вось тут і характарыстыка Пушчы: найбольш у ёй шыпулькавых дрэў: сасны і менавіта елкі, якую ў цяперашніх гарачых разборках некаторыя г.зв. экологі называюць *chwastem*...

Але пара мне вяртацца з Белавежскай пушчы ў беластоцкія разлады: які ж мне выбар астаўся? Заставацца ў Беластоку, бо ж і тут, у Дайлідскім прыходзе, таксама адзначаецца свята прарока Ілы. Ну і падаўся я туды, аўтобусам лініі „17". Аўтобус усё больш напаўняўся пасажырамі, здавалася б, выпадковымі, але на прыпынках па вуліцы Баранавіцкай чакалі святочна апранутыя пасажыры, якіх у той святочнай вопратцы суправаджаў святочны, пагодлівы настрой. І зрабілася нават цесна ў гарадскім аўтобусе, гэтак жа, як бывала калісь у загарадскіх аўтобусах, якія вывозілі маладое тады вясковае насельніцтва ў гарады.

Дайлідская царква пасярэдзіне могілак, набажэнства было нарыхтавана навокні царквы. Вакол могілак стаяла мноства ларкоў, тыя *kolorowe jarmarki*, якія калісь расславіў на ўсю Польшчу беластачанін Януш Ляскоўскі. Здавалася б, што ў наш час, час паўсюднага кансумерызму, дзе пастаўшчыкі ўсялякіх тавараў вабяць народ усімі прыёмамі рэкламы, той народ павінен быць ужо насычаны ўсялякім дабром. Аднак на прыходскія святы з'яўляюцца як грыбы пасля дажджу шматлікія ларкі з каляровымі цацкамі, якія пры нагодзе фэсту аказваюцца неабходнымі наймалодшаму пакаленню...

Царыла спякота, што паводле вышэйпрыведзенай народнай метэаралогіі прадвяшчае працяглую зіму. Гэта добры прагноз, бо даўно такой сапраўднай зімы не было. Панаванне спякоты зусім не абазначае, што неба было чыста блакітнае — яно ўвесь час было гатовае прыняць на свае рознай таўшчыні хмаркі нябесную павозку прарока, як гэта паказваецца на ягоных іконах. Дарэчы, пропаведзь інфармавала, што Ілья быў вельмі вялікім прарокам.

Несумненна, так вынікае з тэалагічнай літаратуры, паводле якой ён быў забраны непасрэдна на неба, дзе заняў пазіцыю ў найвышэйшых вярхах. Гэты святы прысутны ва ўсіх найважнейшых рэлігіях, што выводзяцца з Блізкага Усходу. Язычніцкія рэлігіі таксама без гэтай постаці не абыходзяцца, хаця яна там выступае на іншай пазіцыі і пад іншым імем... У даўніх славян гэта Пярун, які лічыўся ўладаром неба, даравальнікам дажджу; ад яго залежаў плён сялянскай працы...

У біблейскіх паведамленнях прарок Ілья праслаўіўся галоўным чынам змаганнем з ідалапаклонствам. Менавіта ў ягоны час ізраільскі цар Ахаў за намовай сваёй жонкі Езавелі стаў адыходзіць ад веры ў адзінага Бога і пачаў пакланяцца фінікійскаму богу Ваалу. У нас таксама так у агульнасці водзіцца, дзе мужчыны займаюцца галоўным чынам тэалагічнай тэорыяй, затое жанчыны практыкай паўсядзённага жыцця, у тым ліку і рэлігійнага... Ілья вымаліў у Бога засуху дзеля пакарання адступніцкага цара Ахава, а пасля вымаліў дождж. Да таго ж, у ходзе своеасаблівага рэлігійнага доказнага эксперыменту, на нарыхтаваны ім касцёр сышоў у выніку ягоных малітваў агонь, а на касцёр паклоннікаў Ваала не...

Варта звярнуць увагу на постаць прарока Ілы ў ісламе. Бо іслам выводзіцца з той жа самай культурнай прасторы, што іудаізм і хрысціянства; і шмат у іх персанажаў агульных: Маісей гэта Муса, Ісус гэта Іса, Саламон гэта Сулейман і г.д. А Ілья гэта Ільяс; у Каране ён з'яўляецца ў 37 суры, асуджаючы адступнікаў: „Ці ж будзеце пакланяцца Ваалу, пакідаючы Бога, Госпада вашага і вашых прашчураў? (...) І ўвекавечым яго ў будучых пакаленнях. Мір Ільясу! Гэтак адорваем тых, што ўчыняюць дабро". У завяршэнні 18 суры больш канкрэтна пра ўзнагароджванне: „Тым, хто верыць і ўчыняе дабро, нарыхтаваны найраскошныя райскія сады, дзе астануцца навечна і нічога іншага не запатрабуюць". Тут прарок Ілья апісаны даволі стрымана, даволі агульна. Ну а дабро з'яўляецца паняццем рэлятыўным, бо ж рэлятыўна збуданы даступны нам сусвет. І дабром можна палічыць што заўгодна, не толькі з рэлігійнага пункту гледжання. Пра гэта вельмі красамоўна распавядаецца ў той жа 18-й суры, дзе з'яўляецца праведнік Хідр, атаясамліваны рэлігіязнаўцамі з Ільясам — ім апраўдваюцца не толькі шкодныя з традыцыйнага пункту гледжання дзеянні, але нават злачынныя; прабіццё лодкі тлумачыцца тым, што яна магла трапіць у нягодныя рукі, а забойства малечы тым, што ён у будучыні мог стаць злачынцам... Падобную рэлятыўнасць відаць таксама ў нашым навакольным паўсядзённым жыцці. У тым ліку і мінулыя дзеянні ўсялякіх „герояў" у Белавежскай пушчы і яе наваколлі, напрыклад у Залешанах у 1946 годзе. Падаецца, што некаторыя аматары завалодаць душамі насельніцтва нашай цяперашняй Найяснейшай раслі не на евангеллях, а на Каране...

Вярнуся ў „Иллюстрированный путеводитель по юго-западной железной дороге": „в 1894 г. при сел. Беловеже возведен чрезвычайно живописный и оригинальный Императорский охотничий дворец, напоминающий собою королевские дворцы Фреденсборг и Фридринсборг в Дании". Другая назва не надта дакладная, але... Вікіпедыя: „З 1671 па 1840 год усе дацкія манархі каранаваліся менавіта ў капліцы палаца Фрэдэрыксборг". Можа і расійскія цары задумвалі каранавацца менавіта ў Белавежы?.. Да перспектывы такой каранацыі таксама можна ставіцца з розных аспектаў.

Мела быць пра прарока Ілью, а пайшло пра Пушчу. Бо і прарок пра Пушчу не забывае; пятнаццаць з паловай гадоў таму беларускія медыі паведамлялі: „27 лютага каля паловы пятай вечара Белавежскую пушчу зачапіў моцны ўраган. Музейныя хронікі не прыгадваюць падобнага па маштабах і разбуральнасці здарэння. У людской памяці захоўваюцца некалькі падкаў лясных павалаў: у 1980-м дрэвы ламаліся пад цяжарам мокрага снегу, а ў 1984-м — ад шквалістага ветру. Але параўноўваць тыя здарэнні з гэтым смерчам немагчыма. Для многіх, хто тут жыве, працуе і збіраецца наведваць нацыянальны парк, вялікая прасека ў паўднёвай частцы пушчы будзе доўга нагадваць пра тры хвіліны вар'яцкай стыхіі. Усяго за тры хвіліны славутая пушча згубіла 180 гектараў рэліктавага лесу. Паласа працягласцю чатыры з паловаю кіламетры і шырынёю 300-400 метраў нагадвае месца падзення метэарыта. Відавочцы з вёскі Роўбіцк (гэта прыблізна за 25 кіламетраў ад ачага смерчу) апавядаюць, што неба было цёмнае ад хвоі, якую сарвала з дрэў, падняло ў вышыню і несла ў паветры...".

І ў прарокаў можа адзывацца адрэналін, і ў будаўнікоў чыгункі ён зрэдчас бывае...

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# Засталіся адно ўспаміны (16)

Каб ажывіць будні пяцідзесяцігадовай даўнасці пра Дубічы-Царкоўныя, я паспрабаваў скантактавацца са шматгадовым карэспандэнтам «Нівы» Мікалаем Панфілюком. Было крыху цяжкавата, бо ў мяне не было нумара ягонага тэлефона. Дапамагла мне прадаўшчыца вясковай крамы, якая пераказала Панфілюковы нумар мабільніка. У нядзелю зранку, а было гэта 13 жніўня, я патэлефанаваў сябруку. Адказала жонка. Гаспадар яшчэ адпачываў. Цяжкавата было дамовіцца з прыяцелям, паколькі слых у яго слабаваты. Але дзякуй Богу суразмоўца змог адказаць на хвалюючыя мяне праблемы.

— Скажы мне, калі ласка, Мікалай, як прыпамінаеш школьныя гады. Каго з настаўнікаў запамятаў?

— У школу я паступіў у 1950 годзе, а закончыў навуку ў 1958 годзе. Год заставаўся па-за навучаннем па прычыне цяжкіх захворванняў, якія спазнаў у выпадку. З настаўнікаў у пачатковай школе прыпамінаю выхавацельку, якая была кіраўнічкай, Галену Бароўскую, дзядзьку Трахіма Панфілюка, Яніну Крукоўскую з Васількава, матэматыкі навучала, Станіслава Ендраса і Анатоля Кабаца, які праводзіў фізкультурныя заняткі. У нашым класе было дваццаць вучняў. Вучыліся ў невялічкім памяшканні ў драўляным будынку. Па заканчэнні пачатковай школы паступіў я ў СПР — двухгадовую сельскагаспадарчую школу. Настаўнікам і адначасова загадчыкам быў Аляксей Семянюк з Белавежы (выпускнік Тэхнікума сельскагаспадарчага рахунказводства ў Бельску-Падляшскім, а выходзіў з Тэраміскаў — У. С.). Юрка Койла навучаў матэматыкі. Вучыла яшчэ Марыя Вольская. У СПР арганізавалі курсы на атрыманне вадзіцельскіх правоў на матацыкл. Заняткі праводзіў Павел Івацік.

— А як успамінаеш кінаперасоўку з шасцідзясятых гадоў?

— Я быў любіцелям кіно. Не прапускаў ніводнага кінасеанса. У блакноціку запісваў загалоўкі карцін. Прыпамінаю, што шмат людзей прыходзіла глядзець кіно. Бывала, што арганізавалі дадатковыя сеансы, паколькі ў малой зале не маглі ўсе памесціцца.

— А як з «Нівай», чытаеш яшчэ? — цікаўлюся.

— Я — пастаянны чытач. Падпіску раблю. Пісьманосец прыносіць... А як з вашай рэабілітацыяй? Папраўлалася здароўе пакрысе?.. — пацікавіўся калега.

— З 20 жніўня збіраюся на двухтыднёвую рэабілітацыйную змену ў Белавежу. Выкарыстоўваю ўсе даступныя магчымасці, каб паправіць балючыя ногі.

З далейшай размовы я даведаўся, што ў майго прыяцеля Янкі Блізнюка былі, апрача Віктара і Жэніка, яшчэ брат Васіль, лётчык на Узбярэжжы, ды сёстры Оля і Лідзія. А бацюшку-сенiёра клікалі Янам. У дубіцкай царкве служыў да 1976 года. Старасці дажываў пры дачцэ ў Гайнаўцы. Сторажам у школе працавала спадарыня Тэкля, а памагаў ёй у гэтым сын Мікалай. Ён трымаў кантакт з кіношнікамі. Таму і па сённяшні дзень захаваўся ён у маёй памяці.

Апошнім разам я наведаў Дубічы-Царкоўныя сем гадоў таму пры нагодзе пахавання пляменніка пакойнай жонкі Анны ў Грабаўцы. Гэта ўжо не сяло Дубічы шасцідзясятых гадоў. Цывілізацыйны прагрэс перамяніў вёску ў гмінны цэнтр з шыкарнымі забудовамі і асфальтаванай вуліцай. («У Дубічах» — «Ніва» № 45 ад 28.10.2010 г.).

Тэкст і фота
**Уладзіміра СІДАРУКА**

На здымку: Мікалай Панфілюк

---

OLE.BY

ФОТАПРАЕКТ

галоўная | імгненні | блог | архіў | аб праекце

**http://ole.by**

Яшчэ стагоддзе таму фатаграфія была заняткам адзінак. І гэтыя адзінкі нядрэнна зараблялі, робячы здымкі тым, хто быў у стане за іх плаціць. Праўда, хутка гэтая навука аказалася дасяжнай вялікай колькасці людзей, і ў кожным больш-менш прыстойным мястэчку пачалі працаваць фатографы. За прайшоўшыя сто гадоў фатаграфія прайшла вялікі шлях. І цяпер ужо мала хто з маладых людзей ведае, што калісьці для таго, каб зрабіць фотаздымак, трэба было заправіць фільм у фатаграфічны апарат, а потым пераносіць негатыўнае выяўленне на фатаграфічную паперу, каб зрабіць яго пазітыўным.

Сёння ўсё значна прасцей. Лічбавая тэхніка дазваляе нават дзіцяці рабіць фотаздымак. І ўжо зусім неабавязкова яго пераносіць на паперу, каб паказаць камусьці. Дастаткова размесціць выяўленне на сваёй старонцы ў сацыяльнай сетцы альбо на ўласным сайце. Таму цяпер фатографам значна лягчэй данесці інфармацыю пра сябе сваім патэнцыйным кліентам. І ці не самым галоўным у такім данясенні з'яўляецца добра зроблены сайт. Напрыклад такі, які месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://ole.by**.

Калі цікаўны карыстальнік зазірне на дадзены сайт, то перад яго вачыма адкрыецца даволі неардынарнае выяўленне, па ўсім відаць, створанае для як мага большага прыцягнення наведвальнікаў. Чорны фон прарэзвае чырвоная палоска, пад якой знаходзяцца назва сайта, банэры-выйсці на іншыя рубрыкі і, зразумела, фотаздымкі.

Каб зразумець, што гэта за сайт, лепей за ўсё пачаць знаёмства з ім ад рубрыкі „Аб праекце", выйсце на якую месціцца апошнім у цэлым пераліку ўверсе выяўлення. „OLE.BY — аўтарскі сацыяльна-культурны фотапраект, заснаваны ў красавіку 2011 года. Усе матэрыялы на рускай і беларускай мовах", — гаворыцца там. Сапраўды, сайт мае дзве моўныя версіі, „пераключальнік" якіх знаходзіцца пад назначэннем „Ваша мова" з левага боку.

Далей на дадзенай старонцы ідзе кароткая прэзентацыя ўсіх рубрык і старонак сайта. „У „Альбомах" можна пагледзець фотарэпартажы: — з месцаў, дзе адбываюцца цікавыя падзеі, звязаныя са светам моды, прыгажосці, стылю, дызайну, мастацтва, музыкі, спорту; — са святочных мерапрыемстваў, фестываляў, канцэртаў, выстаў, выступленняў, прэзентацый; а таксама: — тэматычныя фотазамалёўкі і зусім выпадковыя фотасесіі", — пазначае фатограф Раман Леановіч, аўтар дадзенага фотапраекта.

„Для прагляду фотаальбомаў у раздзеле «Імгненні» неабходна выкарыстоўваць убудаваны ў браўзар Flash-прайгравальнік. Звярніце ўвагу! Прагляд магчымы ў рэжыме «толькі ON-LINE»: загрузка і захаванне фатаграфій на карыстальніцкія камп'ютары не прадугледжваецца. У „Блогу" можна прачытаць: — пра цікавыя падзеі ў Беларусі; — аб усім тым, што хвалюе і не пакідае абыякавым", — прэзентуе сайт Леановіч.

Па шчырасці, каб пазнаёміцца з яго працамі, дастаткова зазірнуць у кожную з рубрык. Там месціцца сапраўды якасныя і выразныя фотаздымкі, якія перадаюць цэлую палітру фарбаў і адценняў. Гэта тычыцца як здымкаў рэчаў на разнастайных выставах, так і фотасесій з прыгожымі дзяўчынамі альбо фотарэпартажаў шоў і конкурсаў.

Згодна лічыльніку на сайце, зараз там месціцца больш за 10 тысяч фотаздымкаў.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

---

ДАТА З КАЛЕНДАРА

## Заснавальнік эвалюцыйнай палеанталогіі

## 175 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Кавалеўскага

Выдатны навуковец-прыродазнавец, заснавальнік эвалюцыйнай палеанталогіі Уладзімір Кавалеўскі нарадзіўся ў вёсцы Шусцянцы Дынабургскага павета Віцебскай воласці. Скончыў Пецярбургскае вучылішча праваздаўства, дзе рыхтавалі вышэйшых адміністрацыйных чыноўнікаў. Там сышоўся з пецярбургскімі студэнтамі, а праз іх з радыкальнымі рэвалюцыйнымі гурткамі. Паехаўшы за мяжу на лячэнне, Кавалеўскі ўсталяваўся ў Лондане, дзе пазнаёміўся з Аляксандрам Герцэнам, даваў урокі яго малодшай дачцэ. На пачатку лонданскага жыцця Кавалеўскі працягваў яшчэ займацца юрыдычнай навукай, але хутка захапіўся вызвольным рухам. У пачатку 1863 г. разам з рэвалюцыянерам П. І. Якабі паехаў у Польшчу і ўдзельнічаў у паўстанні. Яго дзейнасць, аднак, не дайшла да ведама расійскіх улад і да рэпрэсій не дайшло.

Пераехаўшы ў 1863 г. у Пецярбург, Кавалеўскі ўзяўся за пераклады і сам уцягнуўся ў выдавецкую дзейнасць. За пару гадоў ён выпусціў шмат твораў заходнееўрапейскіх вучоных (Брэма, Фохта і іншых) па фізіялогіі, анатоміі, фізіцы, хіміі, заалогіі. У сярэдзіне 1860-х гг. зноў накіраваўся ў Заходнюю Еўропу і, каб прыняць удзел у паходзе Гарыбальдзі, цэлы час быў сярод блізкіх памочнікаў кіраўніка паходу, дасылаў карэспандэнцыі ў газету „Петербургские ведомости" пра ход ваенных аперацый. У 1867 г. узяў фіктыўны шлюб з дачкой генерала Корвін-Крукоўскага, Соф'яй, якая пазней стане знакамітым матэматыкам. Мэтай гэтага шлюбу было вызваленне дзяўчыны з-пад бацькоўскай улады і магчымасць атрымаць ёй адукацыю за мяжой. З цягам часу фіктыўны шлюб ператварыўся ў сапраўдны.

Вясной 1869 г. Кавалеўскі разам з жонкай паехаў за мяжу, дзе пражыў 5 гадоў. Яны спыніліся ў Гейдэльбергу: там быў адзіны ў Германіі ўніверсітэт, у якім маглі вучыцца жанчыны. Энтузіязм жонкі станоўча паўплываў на Кавалеўскага, і ён стаў сур'ёзна займацца прыродазнаўствам, спачатку геалогіяй, а потым палеанталогіяй. За кароткі час з дылетанта ён стаў не толькі вялікім вучоным, але і наватарам у палеанталогіі, з імем якога звязана новая эпоха ў яе гісторыі. У 1872 г. у Йенскім універсітэце абараніў дысертацыю аб палеанталагічнай гісторыі коней. У 1873 г. вярнуўся ў Пецярбург, абараніў магістарскую дысертацыю аб анхітэрыі (конь міяцэнавай эпохі). Кавалеўскі працаваў над выкапнёвымі капытнымі, і шэраг яго манаграфій прысвечаны іх сямейству. Яго працы паслужылі асновай новай навукі — эвалюцыйнай палеанталогіі. Кавалеўскі даказаў, што марфалагічныя пераўтварэнні залежаць ад развіцця пэўных функцый, а развіццё функцый ён звязваў са зменамі ўмоў існавання. Даследаванні Кавалеўскага, прысвечаныя юрскаму, мелавому перыядам і кайназою. Ён стварыў першыя палеагеаграфічныя карты зоагеаграфічных правінцый позняй юры і ранняга мелу. Пераклаў шэраг прац Ч. Дарвіна, Т. Гекслі, Ч. Лаеля.

У 1880 г. выбраны дацэнтам, а ў 1881 г. — прафесарам Маскоўскага ўніверсітэта, дзе чытаў лекцыі. У гэты час адно з прамысловых таварыстваў, з якім ён быў звязаны, накіравала яго ў Амерыку. Там ён сустрэўся з буйнейшым палеантолагам Э. Д. Копам. Атрымаўшы тэлеграму пра судовы працэс супраць прамысловага таварыства, дырэктарам якога ён быў раней, Кавалеўскі вярнуўся ў Маскву і, не дачакаўшыся суда, у ноч на 28 красавіка 1883 г. скончыў жыццё самагубствам. Соф'я Кавалеўская пазней дабілася поўнай рэабілітацыі мужа.

Падрыхтаваў **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# На рэабілітацыйным аддзяленні



■ Мае сябры з рэабілітацыйнага аддзялення — Алёша Белеўскі (злева) і Міхал Мазурук

Шпітальнае жыццё кацілася сваім ходам. Бяльшчанін Войтак сябраваў з Петрусём з Мельніка. Я дружыў з Алёшам. Да нашай кампаніі далучылася Данка з Чаромхі. Штодзень заходзіла ў палату і выклікала Алёшу ў парк. Не быў гэта парк на ўлонні натуры. На калідоры, з усходняга боку, стаяла раскідзістая пальма з расстаўленымі побач мяккімі крэсламі. У паабедні час пацыенты прыходзілі сюды на адпачынак. Гэтае месца і назвалі паркам. Калі Данка забірала Алёшу ў парк, я займаўся крыжаванкамі.

У суседняй палаце № 11 кватараваліся Мішка Мазурук з Янкам Ваўранюком. Разам з імі ляжаў пацыент з балючымі нагамі. Дзіўны гэта быў чалавек. Не любіў глядзець тэлевізар ды іншым на гэта не дазваляў. Не пераносіў гоману ў палаце. Штодзённа шпацыраваў па калідоры на двух палках. Яго назвалі „спартсменам”. Мішка любіў глядзець тэлесерыялы, таму заходзіў да нас у палату ў паабедні час глядзець турэцкі серыял. На адвячорку супольна глядзелі другі фільм. Для кампаніі браў ён з сабою Янку Ваўранюка. Але гэты неўзабаве пакідаў кампанію. Янка не любіў адкрываць сваіх думак перад калегамі. Некалькі разоў прапанавалі яму пагуляць у карты. Адмовіўся. Адно стала мне вядомым, што пятнаццаць гадоў прыслужваў у царкве старастам. Мішка, наадварот, быў гаваркім кампаньёнам. Ужо пры першай нагодзе наладзілі мы размову ў зале практыкаванняў. Калі я згадаў пра шасцідзясятыя гады, калі я ўГрадалі прыязджаў на забавы, дык Мішка падхапіў: „Памятаю вашы з братам песні... Прыгожа спявалі. Мы адно слухалі, сабраўшыся ў купку”.

Гэта сапраўды былі цудоўныя дні маёй маладосці. З сям’ёю Рамана Брэнькі з Градалёў пазнаёміліся мы выпадкова. У яго былі падрастаўшыя дзеткі Вера і Мікалай. Мы іх запрашалі да сябе ў Кузаву ў госці, а яны мяне з братухам Віктарам да сябе ў Градалі. Затым неўзабаве мы сталі атракцыёнам градалёўскіх забаў. Любілі мы з братухам спяваць, захапляліся савецкімі песнямі. А выбар у нас быў вялікі. Мне зборнікі песень прысылалі маскоўскія студэнты, з якімі ў палове пяцідзясятых гадоў наладзіў я сяброўскія кантакты. Гітамі ў нашым сямейным рэпертуары былі такія песні, як „Маладзёжная”, „Вася-Васілёк”, „Рідна маты моя” ды іншыя. Наша сяброўства неўзабаве дало плён — завязалі мы супрацоўніцтва з мясцовым мастацкім калектывам, абмяняліся канцэртамі. З таго часу запамяталіся мне важакі градалёўскай моладзі Валодзя Бурыла і Валодзя Мазурук.

— Што зараз з імі? — пытаю Мішку.

— Валодзя Бурыла даўно памёр, — адказвае прыяцель. — А Валодзя Мазурук у Беластоку. Ды многае зараз перамянілася ў сяле. На гаспадарцы засталіся адно пенсіянеры. Некаторыя займаюцца жывёлагадоўляй. Надалей працуюць два пункты скупкі малака — бельскага і гайнаўскага малочных кааператываў. У гайнаўскім пункце працуе мая жонка. Два разы ў дзень (ранкам і на адвячорку) аўтацыстэрна забірае па дзвесце літраў.

— А які зараз твой статус? — пытаю Міхала Мазурука.

— Я зараз пенсіянер. Пятнаццаць гадоў працаваў трактарысам у Градалях. Пасля другое столькі ж у СКР у Орлі. А гаспадарку перапісаў на дзяцей. Зараз я „ЗУСаўскі” пенсіянер з трыццацігадовым стажам працы. Нядрэнна жывецца, адно каб здароўе крышачку палепшылася. Я — аптыміст. Спадзяюся, што будзе лепш, — закончыў аповед мой прыяцель з Градалёў Мішка Мазурук.

Тэкст і фота **Уладзіміра СІДАРУКА**

# Збірайма лячэбныя зёлкі

— У жніўні добрая пара збіраць і сушыць лекавыя зёлкі. Калі збіраць, трэба ведаць лекавыя расліны. Збіраем або кветкі, або лісце, або карэнне патрэбных нам раслін. Не вырываем усіх зёлак у адным месцы. Частку іх пакідаем, каб раслі гадамі. Зёлкі збіраем у сухія дні ды калі ўжо абсохне раса. Неабходна ведаць і спосабы іх сушэння. Нельга іх сушыць на сонцы, — праінфармавала мяне Алжбета Калэцкая, якая вядзе пункт скупкі ў Нараўцы Гайнаўскага павета.

Цяпер купляюць перш за ўсё сушанае лісце ажыны, маліны, суніцы, крапівы, мядункі і адуванчыка, цвет стакроткі, кару каліны і крушыны, карэнне аеру, адуванчыка, лопуху, пяцёрніка і жывакосту ды зелле мядункі, ясноткі, крапівы, адуванчыка, святаянніку, чабору і хвошчу. Зараз не купляюць зелля тавулы.

Узяў я даныя з актуальнага цэнніка на месяц жнівень. І так, між іншым, за кілаграм зелля мядункі плацяць 15 злотых, палыну — 4 зл., святаянніку — 3,70 зл. і верасу — 3 зл., за цвет ружы — 35 зл., стакроткі — 30 зл., чырвонай канюшыны — 20 зл., верасу — 18 зл., за лісце суніцы — 10 зл., адуванчыка, крапівы і ажыны — па 7 зл. ды маліны — 6 зл., за карэнне адуванчыка, пяцёрніка і лопуху — па 12 зл., аеру — 8 зл., конскага шчавуху — 7 зл. ды жывакосту — 5 зл., за кару каліны — 14 зл., ліпы (тонкай як крушына) — 4 зл. і крушыны — 3,50 зл.

Калі будзем збіраць лекавыя расліны, на нашым рынку будуць зёлкавыя лякарствы, касметыка, сіропы ды прыправы для страў. Дык збірайма зёлкі!

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Адгаданка

**1.** сімвал хрысціянства, **2.** мабільны бак для бензіну, **3.** роўная зямная паверхня, **4.** сталіца Казахстана, **5.** дзяржава з Ерэванам, **6.** пачатковая частка твора, уводзіны, **7.** асоба або арганізацыя, якая ўваходзіць у склад нейкай групы ці таварыства, **8.** звярок з вострымі іголкамі на спіне і баках, **9**. месца, дзе расце трава на сена, **10.** вакальнае мастацтва, **11.** плод яблыні, **12.** балотная расліна з жоўтымі кветкамі (*Caltha*), **13.** някемлівы чалавек, які *таўчэцца*.

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | 2 | | 3 | | | | | 4 | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | |
| 5 | | | 6 | | | | | 7 | 8 | | 9 | | | |
| | | | | 10 | | | | | 11 | | | | | 12 |
| | | | | | | | 13 | | | | | | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 31 нумара**

ААН, „Аіда”, балет, зебу, ода, певень, сель, юда.

Рашэнне: **На Ілью да абеду лета, а па абедзе восень**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм’янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# 20.08 — 26.08

**(22.03. — 20.04.)** Паспяхова агорнеш усе сямейныя і прафесійныя справы. Уратуешся перад непатрэбнай рызыкай. 20-22.08. пакажаш свае ўмеласці і кампетэнцыі; можа, на жаль, аказацца, што будзеш рабіць за двух, але без падбаўкі. 25-27.08. не бяры голасу ў справах, у якіх не разбіраешся. Добра еж; патрабуеш цяпер больш «паліва».

**(21.04. — 21.05.)** Не адмаўляйся ад мілага правядзення часу. Але пільнуйся, каб 22-26.08. не трапіць у неадпаведную кампанію. Не рвіся з усім уперад; спакойна справішся з усім. З 25.08. маеш шанц на карысную здзелку або дамову (да 27.08.). Калі ты з трэцяй дэкады, можаш трапіць у прывабны куток свету, дзе пры нагодзе новых досведаў прыгожа загарыш.

**(22.05. — 22.06.)** Будзеш крыху нудзіцца, але не пераборшчвай з ахвотай да змен ды не шалей. Мудрыя і прыбытковыя рашэнні. На рабоце не лянуйся, не рассейвайся. Не адразу дастанеш шанц на новую працу, 25-27.08. спадзявайся запрашэння на размову; пакуль пацярпі, сцяўшы зубы. Грошы лёгка здабудзеш, яшчэ хутчэй іх выдасі; не бяры нічога ў крэдыт. Дбай нават аб маленькую ранку, бо занядбоўванне нават малых нямогласцей можа кончыцца кепска.

**(23.06. — 23.07.)** Прыемны час. Магчымыя ўдалыя падарожжы. Можаш цяпер таксама ўзбагацець, толькі разгляньcя і будзь адважны. Смеласць таксама прынясе табе павагу іншых. На працы не бойся выклікаў, калі чагосьці не ведаеш ці не ўмееш, падвучышся. З 25.08. добрыя весткі ад сяброў. 22-26.08. прынагодны секс можа прынесці нечаканыя паслядоўнасці!

**(24.07. — 23.08.)** Энергія, бадзёрасць. Твая сіла пераканання адкрые перад табою ўсе дзверы. Дасягнеш усяго чаго толькі захочаш. Толькі не пакідай пасля сябе «трупаў». Трэнінгі прынясуць вялікія эфекты. 20-22.08. з-за нецярплівасці не страць непаўторнай нагоды. 20-22.08. могуць таксама змяніцца твае планы. З 25.08. магчымыя канфлікты з супрацоўнікамі з-за таго, на чыім баку рацыя.

**(24.08. — 23.09.)** 20-22.08. вельмі пільнуй свайго здароўя і ў нічым не рызыкуй (зацьменне Сонца). Пасля 21.08. спадзе табе камень з сэрца ў сямейных справах. Пасля 22.08. рынак працы шырока адкрые перад табою дзверы; можаш падпісаць дамову або нават заснаваць сваю фірму. З 25.08. (да 27.08.) твае рашэнні будуць разумнымі, узмоцніш сваю пазіцыю.

**(24.09. — 23.10.)** Магчымыя часовыя праблемы ў пары, не зрабі толькі якогась глупства, бо сцежкі можа пабльтаць Меркурый. Энергіі шмат, грошай дастаткова. 22-25.08. пачнеш спатыкаць адпаведных людзей, азвуцца таксама старыя знаёмыя. 26.08. вельмі пільнуйся, каб забава не вырвалася з-пад кантролю! Шалям з першай дэкады пагражаюць турботы з пячонкай, шасціперснай кішкай і жоўцевым пузыром; спажывай вітамін $B_{12}$, С і фоліевую кіслату.

**(24.10. — 22.11.)** 20-22.08. час спрыяе рэалізацыі найбольш смелых задум, хаця могуць табе забалець чужыя поспехі. З 22.08. (да 28.08.) падтрымаюць цябе нават праціўнікі. Час спрыяе выездам і кантактам з замежжам, а таксама (II дэкада) заснаванню свайго бізнесу і заваёве рынку! Але бяры кожную работу, нават калі будзеш лічыць, што яна ніжэй тваіх кваліфікацый.

**(23.11. — 22.12.)** Не ўцякай ад абавязкаў. Асцерагайся непрадуманых змен 20-22.08. Новыя прафесійныя выклікі. Энергіі і сілы шмат, з усім справішся. 20-25.08. твой сябра будзе ў клопаце, не адмаўляйся ад дапамогі. 20-25.08. час спрыяе заснаванню свайго інтарэсу, змаганню за павышэнне, новую пасаду; вялікае значэнне не будуць мець тут знаёмствы, пазыка, крэдыт, паслуга за паслугу. Будзь вельмі асцярожны на дарозе.

**(23.12. — 20.01.)** Пакуль закілзай амбіцыю, усё рабі асцярожна, з развагай, асабліва на працы. 22-26.08. не вырашай нічога, чаго не адвернеш, пад уплывам эмоцый. Варта адпыліць свае веды са школы, якія прыдадуцца асабліва з 25.08. (да 27.08.), цяпер таксама можаш здабыць важныя інфармацыі.

**(21.01. — 19.02.)** Наладжванне адносін, поспехі і прасоўванне на працы. 20-23.08. твае задумы сустрэнуцца з поўным адабрэннем. Настрой баявіты, бадзёры. Прыкмеціш усе нагоды і іх выкарыстаеш. Досвед з малатком і адвёрткамі прыдасца пасля 26.08. Дай з сябе ўсё, пасля 26.08. гэта прынясе плён.

**(20.02. — 21.03.)** Не занядбоўвай важных спраў. Вырашацца ўсе турботы ў пары. Да 25.08. найлепшы час на пошукі жылля, пакупку ўчастка пад дом, пачатак рамонту. Пасля 21.08. папраўа формы. Творчая вена. З 25.08. будуць да цябе цягнуцца інтэлігентныя і цікавыя асобы.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Калі каго скалоціць каўтун, падвее ветрам ці на душу нахлыне немач, той без аглядкі спяшае да бабы Мані на Ражок. Народная лекарка, хоць сама на леках, нікога без суцяшэння не адпусціць дамоў. Над кожным пашэпча, паблаславіць знакам крыжа і нахабным жэстам адгоніць ліха. У сваім гаротным жыцці не разлічвала на такі падарунак лёсу, каб здымаць боль і тугу з людзей і жывёлы. Доўгі час жыла як усе, гаравала. Ды такое здарылася. Дар перадала ёй чужая жанчына. Яна сама выбрала Марыю з ліку ўсіх мяшчан, ды правярала, назірала за ёй гадамі, каб ведаць ці здолее годна справіцца з нялёгкім выклікам.

Вялікая рэч перадаць дар у добрыя рукі. Бо дапамагаць другому, значыць кожны раз ахвяраваць часцінку сябе. Баба Маня пасля кожнага лекавання губляе сілы, змагаецца з ціскам, па начах мучыць яе бяссонніца. Ніколі няма спакою. Але што зробіш? Такая ўжо доля бабы, што сабой ахвяравалася. Жыць, значыць дапамагаць, служыць іншым.

Ці гэта вялікі гонар?

Гонар, вядома, вялікі. Людзі ўдзячныя за аздараўленне, часам да ног кланяюцца. Але яна не чакае паклонаў. Ніякіх грошай не бярэ. Дапамагае, каб падзякаваць Богу за доўгае жыццё. Яна найстарэйшая ў Нобелі. Перажыла палякаў, немцаў, саветаў, калгасы і тыф. Баба Маня верыць, што на даўгавечнасць паблаславіла яе папярэдніца. Тая, што яе выбрала, перадала ёй дар і лячэбныя замовы.

* * *

Да бабы Мані на Ражок завітала я з настаўніцай Галяй Багдановіч, каб старажылка распавяла мне пра мінулае Нобеля.

Мы перайшлі ўсю вуліцу Цэнтральную і павярнулі ў завулак, які выходзіў на возера з прыстанню і квітнеючымі гарлачыкамі. Урочышча завуць Ражок. У Нобелі толькі дзве вуліцы атрымалі афіцыйныя назовы. Апошнія вулачкі і завулкі па старой завядзёнцы лічаць урочышчамі, іх імёны ведаюць адны туземцы. Падобна з людзьмі. Апрача афіцыйнага прозвішча кожнага з паўтысячы ўсіх наблян завуць яшчэ павулічнаму. Пра бабу Маню гавораць, што яна — *Норбут*. Чаму так дзіўна — ніхто не ведае. (Калі гавару, што Норбут гэта слаўнае княжае імя, баба Маня адчувае відавочную палёгку, бо ж часта, каб дапячы, дражнілі іх тым Норбутам!)

Праўда, да вайны яе сям'я жыла на хутары, а сюды, на пясчаны Ражок, трыццаць два гады таму выйшла замуж.

Ужо з парога месца прамовіла талентам гаспадыні. Прыёмны пакой ззяў разнавіднымі колерамі лета. Усе чатыры сцены ад падлогі да столі былі абвешаны вышыванымі ручнікамі, сямейнымі партрэтамі, тканымі радзюжкамі ў кветкавыя матывы, вышыванкамі з лебедзямі, паўлінамі, ружамі і ільвамі, раскевчанымі дыванамі, далікатнымі карункамі, вышыванымі занавескамі. Пры сцяне стаяў блакітны куфар, размаляваны ў аранжавыя і чырвоныя макі. Гэта архаічная мэбля, якую Марыя набыла калісь у Пінску. У Нобель даставілі яго чоўнам па Прыпяці, таксама як элегантную шафу з люстрам. І зараз, калі зірне на бліскучую мэблю з лістоўніцы, думае пра свае падарожжы ў Пінск, пра маладыя гады, пра танцы і спевы да белага рання. Дрэннага не хочацца ёй памятаць.

— І ніколі не прыснілася мне, што на старасць стану шаптаць замовы, — адганяе тэатральным жэстам, як замоўленую хваробу, пахвалы старажылка, — але ж жыццё прыручыла...

* * *

Нарадзілася адзінаццаць гадоў пасля таго, як сям'я Грахоўскіх у 1914 годзе з'ехала ў Глуск, на радзіму маці, на Магілёўшчыну. Ці шкадавалі рашэння? Абжыты, заможны свет Рускай імперыі, куды з'ехалі ў прадчуванні вайны, раптам перастаў існаваць. Пасля рэвалюцыі Магілёўшчыну пустошылі голад і хваробы. Маці будучага паэта з настальгіяй успамінала рыбнае возера Нобель і добрых людзей, якія дзяліліся між сабой рыбнай здабычай, дапамагалі ў бядзе, разам спявалі песні. Нобель явіўся залатым міфам Грахоўскіх, іх закуткам спакою і дастатку.



■ Баба Маня з урочышча Ражок

# У палескай глыбінцы (94)



Баба Маня нарадзілася ў 1925 годзе. Тады гаварылі пра іх: Пінскі павет, гміна Марочна, мястэчка Нобель.

— Пры паляках людзі жылі інакш, як цяпер, — успамінае старажылка. — Жылі з таго, што вырасла на полі або ў лесе. Завязуць у Пінск збожжа, прададуць на рынку, тады маюць грошы, каб купіць соль ці апранахі на вяселле. Яду *вабшчэ* не куплялі. Усё рыхтавалі свае, на месцы. А рыбы было столькі, ажно яна праелася. Бацька запрагаў каня, ехаў на возера, прывозіў поўны воз язёў, шчупакоў ды іншай рыбы. Часам жыды скуплялі і скрынямі везлі ў Пінск. Усякую драбніцу людзі сушылі ў печы і пасля на ёй гатавалі боршч ці капусту. Марыя яшчэ да вайны шмат разоў на чоўне выпраўлялася ў Пінск.

— Хоць людзі жылі без грошай, усім было весела, — уздыхае дзевяностатрохгадовая бабулька. — Па вуліцы ад вечара да рання несліся спевы. А сёння ўсе багатыя ды ніхто не спявае, не весяліцца. Усе хворыя, усе наракаюць.

* * *

Баба Маня шкадуе той радасці і энергіі, якая калісь была ў людзях. Сябе аднак не лічыць шчаслівай. У пятнаццаць гадоў страціла маці. Шасцёра дзяцей засталося сіротамі. Марыі, як найстарэйшай з дзяўчат, прыйшлося стаць дзеткам маці. Каб звесці канцы з канцамі, гаравала ад рання да вечара. Хадзіла ў заробкі. Якія тады былі заробкі для дзяўчат? Вось працавала пры падрыхтоўцы сена на балоце. Траву касілі ўручную, вада часта стаяла па сцёгны або жывот. А ёй трэба было пазбіраць скошаныя сцёблы, загрузіць насілкі на плечы і вынесці на сухі груд траву.

Калісь усе лугі і балоты былі скошаны. Вялікую частку сена рыхтавалі на продаж. Мужчыны грузілі яго ў вялікія чаўны і па рацэ даставілі ў Пінск. Тады коньмі ездзілі, дык патрабавалі сена ў горадзе. Марыя сумленна лічыла прыбытак, усе заробленыя грошы адкладала на чорную гадзіну. Вопратку для цэлай сям'і вырабляла з ільну.

— Пры Польшчы пяць гадоў хадзіла ў школу, — успамінае старажылка.

Час вучобы па сённяшні дзень явіцца ёй самым шчаслівым перыядам у жыцці. З падобным захапленнем думае пра свайго настаўніка Генрыка Дамброўскага. Ён першы пабачыў здольнасць Марыі. Яна рашала задачы на ляту, песні і вершы памятала з першага разу. Генрык Дамброўскі разам з жонкай запрашалі яе пасля ўрокаў на сваю кватэру. Марыя дапамагала ў гаспадарцы, мыла пасуду, прыбірала пакоі. Апрача грошай гаспадары, палякі, давалі ёй падарункі, частавалі смачнай ядой.

— *Вучыцель* выбраў мне хлопца і хацеў нас пажаніць, — баба Марыя з чуллівасцю ўспамінае асабісты матыў.

Той хлопец таксама быў любімчыкам настаўніка. Генрык Дамброўскі забіраў яго на возера, каб пастраляць з лодкі да качак. Запраектаваны ім шлюб падабаўся маладым.

— Але бацька не дазволіў ісці замуж, — кажа Марыя. — Хацеў, каб я яго дзяцей даглядала...

(працяг будзе)

Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**



■ Від на возера Нобель з урочышча Ражок

ISSN 0546-1960 34